● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

14 лютага 1998 г. субота, № 34 (23385)

# ЗВЯЗДА




## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДТРЫМЛІВАЕ СВАІХ ЗЕМЛЯКОЎ НА АЛІМПІЯДЗЕ Ў НАГАНА

Кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, а ён таксама з'яўляецца прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта рэспублікі, які цяпер знаходзіцца на зімовых Гульнях-98 у Нагана, сустрэўся са сваімі землякамі — спартсменамі, трэнерамі, кіраўнікамі дэлегацыі.

Прэзідэнт цёпла павіншаваў біятланіста Аляксея Айдарава з бронзавай узнагародай, якой ён удастоіўся ў гонцы на 20 кіламетраў, і прысваеннем яму афіцэрскага звання.

У гутарцы з галоўным трэнерам зборнай па біятлону Уладзімірам Плаксіным Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што галоўнае - гэта зацвердзіць у Беларусі біятлон у якасці прыярытэтнага зімовага віду спорту разам з хакеем.

Не засталіся без увагі прэзідэнта біятланісты Аляксандр Папоў, Алег Рыжанкоў і Вадзім Сашурын, якія дастойна прадстаўляюць рэспубліку на спартыўным форуме ў Нагана. Ён таксама запрасіў фігурыстаў Таццяну Наўка і Мікалая Марозава пасля завяршэння спартыўнай кар'еры заняцца трэнерскай дзейнасцю ў роднай Беларусі.

Прэзідэнт пабываў у доме, дзе пражывае алімпійская дэлегацыя нашай краіны.

**БЕЛТА.**

## *Адвечная крыніца*



***РЫМАНТАС ДЗІХАВІЧУС — фотамастак, заслужаны дзеяч культуры Літвы. «Адвечная крыніца» — выстава, адкрытая ў Доме дружбы, прымеркаваная да Дня незалежнасці Літвы. Гэты здымак з яго сусветна вядомай серыі «Кветкі сярод кветак».***

## *Для кахання межаў не існуе...*

***Закаханым, як вядома, належыць увесь свет. Але ёсць усё ж такі і ў іх адзін асаблівы дзень у годзе, калі нават самыя сціплыя і няўпэўненыя асобы могуць услых заявіць аб сваіх пачуццях: гэта дзень святога Валянціна, свята ўсіх закаханых, якое адзначаецца 14 лютага***

Існуе некалькі версій вытокаў гэтага свята. Некаторыя знаўцы сцвярджаюць, што нягледзячы на тое, што сапраўды 14 лютага католікі і пратэстанты ўшаноўваюць памяць св. Валянціна, маючы на ўвазе адразу двое хрысціян-пакутнікаў па прозвішчу Валянцін, якія жылі ў часы праўлення старажытнарымскага імператара Клаўдзія II, але ні адзін з іх да закаханых не меў ніякага дачынення. З чаго вынікае, што гэта свята носіць не рэлігійны, а свецкі характар.

Іншыя ж, наадварот, дзень усіх закаханых звязваюць з хрысціянскім епіскапам Валянцінам. Паводле легенды, перад тым як яго пакаралі рымляне, ён паслаў сляпой дачцэ свайго турэмшчыка пісьмо з прызнаннем у светлых пачуццях. Магчыма, толькі яго царкоўны сан не дазволіў іх назваць інакш. З таго часу, як лічыцца, святы Валянцін стаў апекуном усіх закаханых.

Ёсць, праўда, яшчэ адно, больш празаічнае, тлумачэнне таго, чаму менавіта 14 лютага адзначаецца свята закаханых: кажуць, што ў гэты дзень птушкі пачынаюць свае шлюбныя гульні, якія прадказваюць хуткі надыход сезона кахання — вясны. Цікава, ці не гэтай версіі мы з вамі абавязаны аднаму з традыцыйных сімвалаў свята — парачцы буркуючых галубкоў? Але як бы там ні было, а закаханым усё роўна, хто з апанентаў мае рацыю. Можа менавіта таму гэта цудоўнае свята здолела пераадолець межы не толькі розных краін, але і кантынентаў, і рэлігійных канфесій?

Даволі незвычайна яно адзначаецца ў Японіі: тут ужо стала традыцыяй напярэдадні свята святога Валянціна наладжваць на гандлёвых плошчах аднаго з такійскіх універмагаў шырокі распродаж... сімвалаў былога кахання! За сімвалічную плату (усяго 1 долар за месца) пакрыўджаныя і пакінутыя сваімі каханымі жанчыны распрадаюць вялікую колькасць рамантычных і не вельмі сувеніраў, атрыманых імі некалі ад сваіх Апалонаў. І яны, і арганізатары распродажу ўпэўненыя, што менавіта такім чынам лепш за ўсё пазбаўляцца ад сумных успамінаў і няўдалага мінулага. Да таго ж гэта акцыя — цудоўная магчымасць упэўніцца, што нешчаслівіца — не ты адна, і расказаць усяму свету аб подласці і нясталасці мужчынскага роду.

У Еўропе ў якасці падарункаў для каханых традыцыйна рыхтуюць цукеркі, ювелірныя ўпрыгажэнні, кветкі. У прынцыпе, палёт фантазіі ніхто не абмяжоўвае. Ёсць толькі адно пажаданне: падарунак павінен мець форму сэрца або ўтрымліваць упрыгажэнне ў форме сэрцайка. Напрыклад, адзін малады чалавек здагадаўся паставіць і запаліць пад акном сваёй каханай свечкі ў выглядзе вялікага сэрца.

У дзень святога Валянціна ўсе таксама абменьваюцца прызнаннямі ў каханні і дружбе і шлюць адзін аднаму «валянцінкі» — маленькія паштоўкі ў форме сэрца з пажаданнямі дабра без зваротнага адраса.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЕ ПІСЬМО*

## *«Як хочацца падкаціць на белым «Мерседэсе» і...»*

Хачу падзяліцца з вамі сваім болем, які ўжо каторы год не дае спаць па начах. І ўся справа ў тым, што не каханне маё зняважана, а сама чалавечая сутнасць. Нас вучылі ў школе, што самае галоўнае ў чалавека — гэта душа ягоная, а не багацце і адзенне. І я шчыра верыла ў казку пра Папялушку. Я думала, што хлопцы на танцах не будуць звяртаць увагі на маю шэрую сукенку, а адразу пабачаць маю добрую душу...

Але цуд не адбыўся. Маё каханне да Міхася доўжылася з 15 гадоў да трыццаці. Ён быў ідэалам мужчыны: мужным, смелым, спартсменам, разумным. Мы былі з адной вёскі, з аднолькавых сем'яў, не вельмі бедных, але і не багатых. У студэнцкія гады я насіла ўсяго два строі: шэрую сукенку і чорную спадніцу з белай блузкай. Ды зімою — зялёнае паліто, падол якога парваўся і я яго зацыравала. Бацькі не мелі магчымасці мне дапамагчы, Міхась таксама насіў нязменны шэры касцюм і сінюю кашулю. Але ён так цудоўна граў на гітары! І ўсе дзяўчаты з універсітэта былі закаханыя ў яго. Я — таксама. Але Міхась заўсёды гаварыў: «Я максіміліст! Калі выйграю — то мільён, калі закахаюся — то ў каралеву!»

Я ўсё рабіла для таго, каб стаць каралевай. Навучылася шыць, пашыла сабе цудоўную летнюю сукенку, стала пастаяннай кліенткай касметычных салонаў, наведвала спартыўныя секцыі. Затым, калі мы скончылі універсітэт і трапілі працаваць на адно прадпрыемства, апраналася, як магла, галадала, але моднічала. Навучылася граць на гітары, хадзіла ў паходы, была душою кампаніі. У мяне былі доўгія залацістыя валасы, і ён называў мяне «прынцэсай, якую трэба насіць на руках». Я складала для яго вершы і пісала ягонае імя на зімовым снезе. Мы жылі з ім у адным рабочым інтэрнаце, працавалі ў адным СКБ. Я дабівалася ягонай увагі, удасканальвалася, праседжвала гадзінамі ў бібліятэцы, каб назаўтра рашаць з ім цікавыя красворды, я пякла тарты на ўсе інтэрнацкія вечары за кавай, на ягоныя дні нараджэння, на ўсе святы. Усе думалі, што мы з Міхасём пажэнімся. Так думала і я...

Была ў нас на працы, у маім аддзеле дзяўчына. Талковая, прадпрымальная, дзелавітая і незалежная. Міхась гаварыў пра яе: «Каралева! Лідэр, які вядзе за сабою!» Яна жыла з бацькамі ў трохпакаёвай кватэры, але, зацяжарыўшы ад свайго каханага, імя якога ніхто з нас не ведаў, Іна выпісалася з кватэры бацькоў і дабілася сабе месца ў нашым інтэрнаце. Нарадзіла дзіця, і ў хуткім часе яна атрымала сваю кватэру. «Дзелавітая! — гаварыў Міхась. — Яна думае пра будучыню сваіх дзяцей! Бацькі не вечныя, Іне застанецца трохпакаёвая кватэра, другую, аднапакаёвую, будзе здаваць. Шчаслівы той, хто ажэніцца з Інай!», — і, гледзячы на мяне, дадаваў: чаму ж ты такая непрадпрымальная?» Так, я не магла атрымаць кватэры... Не мог атрымаць яе і Міхась. Тады я зацяжарыла ад яго... Але ён мяне ўгаварыў зрабіць аборт. Сказаўшы, што ў мяне не атрымаецца нічога наконт кватэры і наогул ён не збіраецца на мне жаніцца, нягледзячы на тое, што мы з ім жылі як муж і жонка...

Якім жа было наша здзіўленне, ды дзе там — шок, калі мы даведаліся, што Іна нарадзіла тое дзіця не ад каго іншага, як ад Міхася. Аказваецца, у іх была такая дамоўленасць... Міхась ужо даўно стаў сваім чалавекам у хаце Ініных бацькоў, але не хацеў ісці ў прымы. ...Тады і прыдумалі яны з Інай гэткі план. А я ўвесь час, усе тыя гады, выступала ў якасці дурніцы, якая рыхтавала ў інтэрнаце для яго ежу і дзяліла з ім ложак. А Іна ў гэты час выношвала ягонае дзіця... Міхась часам знікаў некуды, а нам гаварыў, што ідзе ў басейн.

Яны з Інай падманвалі ўсіх на працы, рабілі выгляд, што не сябруюць. А я, як тая дурніца, расказвала Іне, як я кахаю Міхася. Уяўляю, як яны разам смяяліся з мяне... Я была проста шырмай у іх «кватэрнай» аферы...

Гэта ўсё здарылася даўно, пяць гадоў таму. Цяпер у іх трое дзяцей і ўжо тры кватэры (Міхась нарэшце атрымаў кватэру як халасцяк... Потым распісаліся.)

Як мне хочацца падкаціць да нашай фірмы, у якой ён так і застаўся нікчэмнасцю, не зрабіўшы кар'еры, аб якой марыў, на белым «Мерседэсе», выйсці з яго ў норкавым футры, зняць скураныя белыя пальчаткі і размазаць іх па ягоным твары... Мне сняцца і сняцца ён і яна... Яна — лідэр, які вядзе за сабою, а ён — інтэрнацкі таракан, які знайшоў сваю каралеву, прайграўшы мільён сяброў...

Ён больш не грае на гітары, не ходзіць у паходы. Прафесійны няўдачнік, ён употай ад багатай жонкі гуляе з такімі ж наіўнымі, якою раней была я, дурнічкамі. З другога боку, мне шкада Іну і ўсіх багатых дзяўчат за тое, што ля іх заўсёды круцяцца вось такія меркантыльныя жабракі, як Міхась.

Але, на жаль, у мяне няма кватэры ў горадзе, няма і багацця, няма іншамаркі і норкавага футра... Як пазбавіцца сноў сваіх? Мне ўжо 30 гадоў. Няўжо так і прайшло жыццё: сярод туману і падману, сярод нязбытных мар? І як усё паправіць?

**Анастасія,** г. Мазыр.

*Прызнаюся: пісьмо, хоць і з просьбай надрукаваць, было адрасавана асабіста мне. Але што значыць парада аднаго чалавека ў такой справе? Спадзяюся, многіх з вас не пакінуў абыякавым гэты ліст.*

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## Віктар БЕЛЯКОЎ:
## «Супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў хлеб ядуць не дарма»

***З намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў (ГУПР) Віктарам БЕЛЯКОВЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса».***

**— Віктар Віктаравіч, аб існаванні ў рэспубліцы такога інстытута як Дзяржаўны падатковы камітэт, напэўна, ведаюць усе, а вось тое, што ў рамках Дзяржкамітэта дзейнічае Галоўнае ўпраўленне падатковых расследаванняў, вядома нямногім. Якое прызначэнне гэтага ўпраўлення?**

— Асноўная задача супрацоўнікаў нашага галоўнага ўпраўлення — вярнуць у дзяржаўны бюджэт сродкі, якія павінны былі паступіць у казну ў якасці падаткаў, аднак па прычыне нядобрасумленнасці некаторых дзеячаў гэта не адбылося.

Сёння не з'яўляецца сакрэтам, што аб сапраўдных маштабах фінансавай дзейнасці некаторых камерцыйных структур можна толькі здагадвацца. Большую частку сваёй дзейнасці гэтыя фірмы жадаюць пакідаць у цяні, прадстаўляючы кантрольным фінансавым органам толькі частку дакументаў, у адпаведнасці з якімі памер падаткаў, які належыць выплаціць дзяржаве, скарачаецца ў некалькі разоў. Гэтых віртуозаў-махляроў мы і закліканы выводзіць на «чыстую ваду». Гаворачы мовай афіцыйных дакументаў, наш абавязак выяўляць, спыняць, а таксама раскрываць злачынствы ў сферы падаткаабкладання і прадпрымальніцтва. Часцей за ўсё гэтыя парушэнні былі звязаны з увозам на мытную тэрыторыю рэспублікі падакцызнай групы тавараў, правядзеннем аперацый з валютай, гандлем нерухомасцю, нафтай і нафтапрадуктамі.

**— Раскажыце, калі ласка, аб выніках дзейнасці ГУПР у 1997 годзе.**

— У мінулым годзе нашай службай была праверана дзейнасць 24,6 тысячы суб'ектаў гаспадарання, якія дзейнічаюць на тэрыторыі рэспублікі. З іх — 3,4 тысячы прадпрыемстваў і арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці. 10,6 тысячы — прыватных прадпрымальнікаў. 254 замежныя фірмы, сумесныя прадпрыемствы, банкі, а таксама больш як 9 тысяч фізічных асоб. У выніку гэтых праверак было выяўлена каля 22 тысяч парушэнняў, якія мелі месца ў 90 працэнтах правераных прадпрыемстваў і арганізацый.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 13 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белкаапбанк | 42800 | 43800 | 23500 | 24000 | 7000 | 7200 | 226-8544 |
| Банк «Белбалтыя» | 43000 | 44000 | 23650 | 24200 | 7000 | 7250 | 296-5059 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для беззаяўных разлікаў) | 32170.00 | | 17697.22 | | 5310.00 | | Курс на 16.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0500 | | 3.3365 | | 10000 BLR - 1.3908 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43440 | 43480 | 23908 | 23936 | 7174 | 7183 |

## Вам адкажа беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Вячаслаў Віктаравіч ЛЮБАВІЦКІ



**Паважаныя чытачы, вы зможаце пагутарыць з беларускім ваенным пракурорам Вячаславам Віктаравічам ЛЮБАВІЦКІМ. «Прамая лінія» з яго ўдзелам адбудзецца 17 лютага з 14 да 15 гадзін.**

**Задаць пытанні генерал-маёру юстыцыі ў гэты час можна па тэлефонах: (8-017) 232-38-21; 232-38-92. А таксама пішыце, калі ласка, на адрас рэдакцыі газеты «Звязда».**

## КІРАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ ЎСКЛАЛІ ВЯНКІ НА МАГІЛУ ПЯТРА МІРОНАВІЧА МАШЭРАВА

У дзень, калі слаўнаму сыну беларускага народа Пятру Міронавічу Машэраву споўнілася б 80 гадоў, у Мінску, на могілкі па Маскоўскай шашы, дзе ён пахаваны, прыйшлі кіраўнікі беларускай дзяржавы, каб аддаць даніну памяці гэтаму выдатнаму дзеячу нашай дзяржавы. Вянкі на магілу Машэрава ад імя прэзідэнта Беларусі, урада і парламента ўсклалі Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, міністр абароны Аляксандр Чумакоў, генеральны пракурор Алег Бажэлка, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын і іншыя афіцыйныя асобы. Кіраўнікі рэспублікі выказалі самыя цёплыя словы пра Пятра Міронавіча Машэрава членам яго сям'і, якія прысутнічалі на могілках.

Ушанаваць памяць слаўнага земляка і ўскласці кветкі на яго магілу прыйшлі таксама прадстаўнікі грамадскасці, прадпрыемстваў, ветэранскіх арганізацый і жыхары сталіцы, якія помняць і любяць Пятра Міронавіча Машэрава, чалавека, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню народу.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**



Напярэдадні 80-годдзя з дня нараджэння П.М.Машэрава, 12 лютага, па даручэнню прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Пашкевіч і першы намеснік кіраўніка спраў прэзідэнта Лявонцій Харужык наведалі яго сям'ю. Сям'і П.М.Машэрава ад імя кіраўніка дзяржавы было перададзена прывітанне і выказана падтрымка. Пры гэтым Іван Пашкевіч адзначыў, што Аляксандр Лукашэнка сам планаваў наведаць Машэравых заўтра, але не зможа гэтага зрабіць з-за ад'езду за межы рэспублікі.

Нагадаем, што прэзідэнт Беларусі быў у свой час першым прадстаўніком дзяржаўнай эліты краіны, які наведаў Машэравых. Беларуская партыйная наменклатура нячаста ўпамінала імя гэтага кіраўніка рэспублікі, якога і цяпер помняць у народзе. Як вядома, менавіта па ініцыятыве Аляксандра Лукашэнкі, згодна з яго ўказам, вырашана ўрачыста, на дзяржаўным узроўні адзначыць юбілей П.М.Машэрава.

* * *

Вечары памяці, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння Пятра Міронавіча Машэрава, прайшлі па ўсёй рэспубліцы. Адзін з іх адбыўся 12 лютага ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў. Тут перад прысутнымі выступілі паплечнікі Пятра Міронавіча па камсамольскай, партыйнай і дзяржаўнай рабоце, аднапалчане.

Аддаючы даніну памяці свайму таварышу, сябру і паплечніку, былы сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Лізавета Чагіна выказала асаблівую ўдзячнасць у адрас прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які, на яе думку, пераняў у Пятра Машэрава дастойны прыклад сумленнасці, працавітасці і шчырасці.

Вечар памяці завяршыўся дэманстрацыяй урыўкаў з дакументальнага фільма «Прызнанне» пра Пятра Міронавіча Машэрава і выступленнем вакальнага ансамбля «Памяць сэрца».

**Аляксей МАКСЮКОЎ, БЕЛТА.**

## ЗАБЫЦЬ НЕЛЬГА...

Мне асабіста пашчасціла. Вайны я не бачыў. Служба ў Чырванасцяжнай Туркестанскай ваеннай акрузе, якая для многіх атаясамлівалася з вядомай 40-й — «афганскай» — арміяй, праходзіла для мяне ў мірных умовах. З гэтай нагоды помніцца рашучы росчырк аднаго начальніка на рапарце аднаго з афіцэраў з просьбай перавесці для далейшага праходжання ў абмежаваны кантынгент савецкіх войскаў у Афганістане: «...Удасканальвайце сваё баявое майстэрства ў перадгор'ях Капет-Дага...» Так і я... удасканальваў у мірных умовах у спакойных, ціхіх па тым часе перадгор'ях... А побач, як казалі, «за рэчкай», ішла вайна. Таму за ўласнае шчасце мне ў некаторай ступені сорамна.

Аглядваючыся на вайсковую службу, разумею, што па-ранейшаму да афганскіх падзей стаўлюся дыялектычна, неадназначна. Але, як і тады, раней, дзесяць—трынаццаць гадоў таму, сустракаючыся з «афганцамі», бачу, адчуваю, якія яны ў большасці сваёй моцныя людзі, мужыкі, што тады не «здрэйфілі», яны і ў мірным жыцці такія ж паслядоўныя, энергічныя, дзеяздольныя.

З нампалітам, які ляжаў пад абстрэламі побач з камандзірам разведроты Героем Савецкага Саюза капітанам Пласканосам, Колем Стральчукам я пазнаёміўся ў вучэбным воінскім калектыве ў Ашхабадзе. У старлея, якому даверылі батальён, — два баявыя ордэны, раненне, кантузія. І ні ценю фанабэрыстасці. Пасля сустрэліся з Колем на Кубе. І я на свае вочы бачыў, як хлопец грыз ваенную навуку, вучыў іспанскую мову, працаваў у спартыўным гарадку (навошта? у спёку ж, да ціску найвышэйшага! да крыві — з носу!). Ён жа — «афганец», думалася некаторым, мог бы па тым часе і паблажку сабе даць... А Коля ўвесь час сабе і навакольным даказваў: яму выпрабаванні хоць бы што, ён моцны... Часам гэта падаецца наіўным. Але ж, з іншага боку, нешта ў гэтым ёсць ад моцы, ад тае праўды, дзеля якой мы прыходзім у свет жыццёвых выпрабаванняў.

І такія, як Коля Стральчук, мой украінскі сябар, многія «афганцы»... Я сёння думаю пра ваенных журналістаў-»афганцаў», з якімі давялося служыць, працаваць. Рыгор Сакалоўскі, Валерый Кавалёў, Валерый Пінчук, Леанід Захаранка, Рыгор Саланец... А ў нашым Доме прэсы — таксама былы «афганец» Сяргей Дубовік, сёння — галоўны рэдактар «Рэспублікі». А яшчэ ж думаю пра палкоўніка запасу Васіля Баранава. Пра сённяшняга першага намесніка старшыні Слуцкага гарвыканкама Валянціна Сітніка, які ў афганскім полымі выносіў з бяды параненага журналіста — «известинца» Сяргея Сеўрука... У кожнага са згаданых і незгаданых мною «афганцаў» — свая памяць, свой сённяшні лёс. Але ў адрозненне ад нас, астатніх, у іх — штодзённая памяць, штодзённы боль. І калі не пра сам «Афган» нам помніць трэба, то ўжо ніяк нельга забыць грамадству, што побач ёсць людзі, якім жыццё, Гасподзь Бог наканавалі выпрабаванне. Цяжкае выпрабаванне, у якім гэтыя людзі захавалі і годнасць сваю, і сэрцы свае, і душы свае чулыя. Забыць пра гэта нельга. Ніяк нельга.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## «СУПРАЦОЎНІКІ ГУПР ХЛЕБ ЯДУЦЬ НЕ ДАРМА»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

У прыватнасці, нашымі супрацоўнікамі разам з інспектарамі Дзяржаўнага падатковага камітэта па Заводскаму раёну Мінска была арыштавана проціпраўна ўвезеная на тэрыторыю рэспублікі партыя імпартнай гарэлкі, якая належала Фонду падтрымкі і развіцця культуры. А гэта як-ніяк — 1,4 млн. металічных бляшанак ёмістасцю 0,33 літра на агульную суму больш як 16 млрд. рублёў. Пагадзіцеся, падтрымліваць культуру такім чынам не зусім культурна.

У сувязі з развіццём так званага «чаўночнага бізнесу» сферу сваёй дзейнасці расшырылі ў рэспубліцы і розныя турыстычныя фірмы, якія адкрыта вырашылі «нагрэць» рукі на сваіх суграмадзянах і адначасова не жадалі плаціць устаноўлены дзяржпадатак.

Так, упраўленнем падатковых расследаванняў і аддзелам кантролю за падаткаабкладаннем юрыдычных асоб падатковай інспекцыі па Віцебскай вобласці з 1 студзеня па 31 кастрычніка мінулага года праводзілася праверка турыстычнай кампаніі «Хэпі трэвел». У выніку ўдалося высветліць, што ў Полацкім прадстаўніцтве туркампаніі ў парушэнне закона аплата за туры прымалася ў валюце і больш таго — не апрыходавалася. Акрамя таго, адным з супрацоўнікаў кампаніі была зроблена аплата наяўнымі грашыма за арэнду двух плацкартных вагонаў ў суме каля 25 млн. рублёў, аднак у бухгалтарскай справаздачы правядзенне гэтай аперацыі не значылася. Турфірмай таксама не былі ўплачаны падаткі за арганізацыю тураў нашых суграмадзян у Балгарыю і Адэскую вобласць. За ўсе выяўленыя парушэнні фірме было налічана больш як 3,2 млрд. рублёў, якія турыстычная кампанія абавязана пералічыць у бюджэт дзяржавы.

Па матэрыялах усіх праверак, праведзеных разам з Дзяржаўным падатковым камітэтам, нашы інспектары абавязалі камерцыйныя структуры пералічыць у бюджэт дзяржавы больш чым 2,6 трыльёна рублёў. 705 млрд. з гэтай сумы ўжо паступіла ў дзяржаўную казну.

Так што нашы работнікі, а іх па рэспубліцы ўсяго 816 чалавек, свой хлеб ядуць не дарма.

**— Ваша ўпраўленне можна назваць законнанароджаным дзіцем рыначнай эканомікі. Разам з тым ГУПР — сілавое ведамства, а калі так, значыць асобных кіраўнікоў, напэўна, прыходзіцца прымушаць плаціць падаткі?**

— Па ўжо прыведзеных лічбах відаць, што метады ўтойвання сапраўдных даходаў ад падаткаабкладання робяцца больш вытанчанымі і маштабнымі. Таму часам і прыходзіцца выкарыстоўваць сілавыя метады работы, каб перамог закон.

Практыка паказала, што калі размова ідзе аб шматмільярдных сумах, то нават самыя вытрыманыя вараціла «ценявога» бізнесу часта губляюць галаву і спрабуюць ухіліцца ад уплаты падаткаў. У выніку гэтага яны трапляюць у поле нашага зроку з усімі адсюль наступствамі.

У якасці прыкладу можна ўспомніць выпадак, калі супрацоўнікі ГУПР разам з падатковай інспекцыяй Кобрынскага раёна выявілі незарэгістраваную ў рэспубліцы фірму, якая спецыялізавалася на гандлі спіртам. Узначальваў яе грамадзянін Расіі. У выніку праверкі трох спіртзаводаў, якія аказаліся ў нас «на заметцы», 129 тон «крымінальнага» спірту і 187 тон збожжа былі арыштаваны. Сума дадаткова налічаных плацяжоў і штрафных санкцый адносна гэтай «паўпадпольнай» камерцыйнай структуры склала 7,2 млрд. рублёў. Па гэтаму факту была ўзбуджана крымінальная справа, аднак «вялікі камбінатар» з Расіі кінуўся наўцёкі і да гэтага часу знаходзіцца ў вышуку. Так што даўгі ў асобных выпадках прыходзіцца спаганяць з боем.

У мінулым годзе супрацоўнікамі дазнання органаў падатковых расследаванняў было ўзбуджана 2336 крымінальных спраў, у тым ліку 1446 па ўласных матэрыялах.

**— Як бы вы пракаменціравалі «шумнае» пытанне аб неабходнасці дэкларавання грамадзянамі сукупнага гадавога даходу?**

— Адзін са шляхоў павышэння эфектыўнасці выканання і захавання падатковага заканадаўства бачу ў паскарэнні прыняцця Падатковага кодэкса рэспублікі. Кадыфікаваць падатковае заканадаўства трэба не толькі для таго, каб яно было меншым па аб'ёму, але і для таго, каб у ім гранічна ясна і зразумела выкладаліся ўсе палажэнні для кожнага чалавека. Устаноўленыя ж падатковымі органамі цывілізаваныя «правілы гульні» на наступны год павінны захоўвацца абодвума бакамі. Тады і не ўзнікне непаразуменняў, якія нядаўна мелі месца па дэкларaванню даходаў.

### КРЫМІНАЛ

## У БЫХАВЕ ЗАТРЫМАНЫ ГВАЛТАЎНІК ДЗІЦЯЦІ

Непрацуючы жыхар горада Быхава выманіў са школы дзвюх сясцёр: шасці- і васьмігадовага ўзросту, паабяцаўшы дзяўчынкам шакалад. Мужчына завёў дзяцей у хлеў паблізу і на вачах у старэйшай сястры згвалтаваў малодшую. Дома моцна спалоханыя дзеці нічога бацькам не сказалі, але маці западозрыла нешта нядобрае і звярнулася да доктара. Потым сёстры і расказалі, што з імі здарылася. Пасля гэтага гвалтаўнік быў вельмі хутка затрыманы міліцыяй.

**Ілона ІВАНОВА.**

**УВАГА! «Звязда» праводзіць «прамую лінію» з міністрам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігарам Барысавічам ЗЕЛЯНКЕВІЧАМ.**

У вас з'яўляецца унікальная магчымасць атрымаць самы кампетэнтны адказ з вуснаў міністра на ўсе пытанні, што датычацца галіны аховы здароўя. Тэлефануйце 19 лютага з 11 да 12 гадзін па тэлефонах рэдакцыі: **(8-017) 232-38-21; 232-38-92.**

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне **(8-017) 268-28-14** і пісьмовых допісаў на адрас рэдакцыі «Звязды».

## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 15 лютага, нядзеля

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Дзень, добры для вучэння, авалодання якімі-небудзь навыкамі, сустрэч і абмену інфармацыяй. Спрыяльны час для грашова-фінансавых аперацый і гандлю. Добра рабіць пакупкі. Можна адпраўляцца ў далёкія паездкі і падарожжы. Прыём гасцей лепш перанесці на іншы час. Не займайцеся прыбіраннем кватэры і мыццём бялізны. Пастарайцеся ўбачыць сябе як бы збоку. Не трэба хлусіць і грубіць. Менш спіце. Не судакранайцеся з агнём. Наведайце лазню з добрай парай. Проціпаказана ўжыванне цяжкай ежы і алкагольных напояў.

**АДЗЕННЕ**. Добра апранацца ў новае адзенне. Рэкамендуецца жоўты, блакітны і сіне-зялёны колеры. Пазбягайце чырвоных, аранжавых і ліловых тонаў.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі пры выхадзе з дому вас сустракае бакавы вецер — значыць вы знаходзіцеся пад аховай Неба. Калі вас некалькі разоў аклінулі па імені — да паляпшэння вашага становішча. Знайсці металічныя прадметы і грошы ў гэты дзень — дрэнны знак (лепш не падбіраць), папярэджанне аб суроках, страце.

**СНЫ**. Прарочыя. Бачыць дарогу, падарожжы, дрэвы — знак дабрабыту, перамены да лепшага. Стрыгчы валасы, пазногці, выпадаюць зубы — знак падману.

**МЕДЫЦЫНА**. Проціпаказаныя працэдуры, звязаныя з ныркамі, эндакрыннай сістэмай і падстраўнікавай залозай. Пазбягайце ўздзеяння на скуру лакаў, фарбаў і парашкоў. Добра лячыць зубы, хваробы галавы і вушэй. Можна рабіць аперацыі на твары і галаве. Спрыяльны масаж, працэдуры па амалоджванню і пазбаўленню ад лішняй вагі.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## ЛІТВА ХОЧА БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ МОЦНАЙ І СТАБІЛЬНАЙ СУСЕДКАЙ

**16 лютага Літоўская Рэспубліка адзначыць васьмідзесятую гадавіну абвяшчэння дзяржаўнасці. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Віктарас Баўбліс сустрэўся з журналістамі напярэдадні гэтага свята.**

Як вядома, нягледзячы на тое, што новы прэзідэнт краіны прыступіць да выканання сваіх абавязкаў толькі 26 лютага, Валдас Адамкус пацвердзіў, што прыярытэты ў знешняй і ўнутранай палітыцы ў сувязі з яго прыходам не зменяцца. На сённяшні дзень першачарговым накірункам з'яўляецца інтэграцыя Літвы ў Еўрапейскі саюз і НАТО. Паводле ж слоў сп. Баўбліса, разам з гэтым Вільнюс усяляк будзе імкнуцца мацаваць і развіваць сувязі са сваімі бліжэйшымі суседзямі, у тым ліку і з Беларуссю.

Разважаючы пра стан літоўска-беларускіх адносінаў, пасол адзначыў, што тэндэнцыя пашырэння гандлёвых кантактаў не змяншаецца. Тавараабарот летась у параўнанні з 1996-м павялічыўся на 109,7 працэнта. У абсалютных лічбах гэта складае 478,7 млн. долараў ЗША. У выніку Беларусь займае трэці радок пасля Расіі і Германіі ў спісе найбольш буйных гандлёвых партнёраў Літвы.

Па-ранейшаму застаецца вельмі нізкай інвестыцыйная актыўнасць беларускіх партнёраў на тэрыторыі Літвы. Зараз пакуль толькі 28 беларускіх суб'ектаў гаспадарання ўкладваюць свае грошы ў эканоміку суседняй дзяржавы. Агульны капітал роўны 1,2 млн. долараў. У той жа час 155 літоўскіх прадпрыемстваў уклалі свае грошы ў Беларусі на агульную суму 5,7 млн. долараў.

Не менш важнай з'яўляецца і перспектыва бязвізавага праезду жыхароў Літвы і Беларусі. Зараз такой магчымасцю карыстаюцца толькі некалькі катэгорый грамадзян. Першым крокам магло б быць падпісанне пагаднення аб вяртанні нелегальных мігрантаў. Паводле інфармацыі В. Баўбліса, праект гэтага дакумента быў гатовы да падпісання яшчэ восенню мінулага года, аднак да гэтага часу застаецца праектам. На сённяшні дзень Беларусь не мае дагавораў аб рэадмісіі ні з кім са сваіх суседзяў. І калі прыйдзецца падпісваць падобны дакумент з Літвой, Польшчай, Латвіяй, то так ці інакш узнікне неабходнасць заключэння адпаведнай дамоўленасці з Украінай і Расіяй. Да гэтага, на думку В. Баўбліса, Беларусь зараз яшчэ не гатова.

У выніку на шляху «нелегалаў» найбольш эфектыўным застаецца візавы бар'ер. Аднак шукальнікам лепшага жыцця і яго ўдаецца пераадолець. У 1995 годзе ў Літве было затрымана 1350 нелегальных мігрантаў, праз год — 1600, у 1997-м — 1500. З іх, паводле выказвання дыпламата, прыкладна 70 працэнтаў маюць «беларускі след». Аднак пры наяўнасці неабвержных доказаў літоўскі бок вяртае ў Беларусь штогод толькі 30—50 чалавек.

Віктарас Баўбліс падзяліўся планамі адносна афіцыйных кантактаў паміж Мінскам і Вільнюсам. У першым квартале гэтага года Літва чакае прыезду міністра замежных спраў Івана Антановіча. Ён разам з літоўскім і латвійскім калегамі падпіша на мяжы трох краін пагадненне аб статусе адпаведнай памежнай кропкі. Адначасова рыхтуецца візіт у Вільнюс беларускага віцэ-прэм'ера сп. Навіцкага, які з прадстаўнікамі ўрада абмяркуе шэраг эканамічных пытанняў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### XVIII ЗІМОВЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

## СЕНСАЦЫІ НЕ АДБЫЛОСЯ

Вось і дачакаліся беларускія хакейныя балельшчыкі матча XX веку — Канада — Беларусь. На жаль, не выйшла так, як хацелася: нашы прайгралі з «сухім» лікам 0:5. Праўда, наўрад ці хто асудзіць падначаленых Анатоля Варывончыка за гульню. Якніяк, а процістаялі нам пяціразовыя алімпійскія чэмпіёны, сабраўшы пад свой сцяг «каманду мары». Будзем спадзявацца, што сённяшняя сустрэча беларусаў з амерыканцамі пройдзе крыху па іншаму сцэнарыю, і ў гульні нашых легіянераў не будзе адчувацца мандражу перад заакіянскімі «профі». Ды і забітыя шайбы ў іх вароты ў рэшце рэшт з'явяцца...

**Вынікі астатніх сустрэч другога этапа:**

**група «D»** — Швецыя — ЗША — 4:2 (1:2, 2:0, 1:0)

**група «С»** — Чэхія — Фінляндыя — 3:0 (0:0, 1:0, 2:0)

Расія — Казахстан — 9:2 (5:1, 2:0, 2:1)

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

Алег БАЖЭЛКА:

# «СЁЛЕТА ПРАВААХОЎНЫМ ОРГАНАМ НЕАБХОДНА ЗНАЧНА ПАЛЕПШЫЦЬ СВАЮ РАБОТУ ПА ЎМАЦАВАННЮ ПРАВАПАРАДКУ»

*Спецыяльна для «Звязды»*

***З усіх дзяржаўных структур, якія сёння знаходзяцца на пярэднім краі барацьбы са злачыннасцю, асабліва важная і шырокамаштабная роля адведзена органам пракуратуры. Супрацоўнікі пракуратуры не толькі непасрэдна змагаюцца са злачыннасцю, расследуючы складаныя крымінальныя справы, але і ажыццяўляюць нагляд за дзейнасцю іншых праваахоўных органаў, і ўвогуле, сочаць за захаваннем законнасці ў краіне. Інакш кажучы, фактычна ніводнае злачынства і нават значнае правапарушэнне не застаецца па-за ўвагай пракурораў.***

***Таму выказаць свае меркаванні наконт крымінагеннай сітуацыі ў краіне карэспандэнт «Звязды» папрасіў Генеральнага пракурора Беларусі Алега БАЖЭЛКУ.***

**— Алег Аляксандравіч, пры ацэнцы вынікаў барацьбы са злачыннасцю за мінулы год Вашы меркаванні не зусім супалі з пунктам гледжання кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў. У прыватнасці, на выніковай калегіі рэспубліканскай пракуратуры, аналізуючы крымінагенную сітуацыю, Вы былі не так аптымістычна настроены, як міліцэйскае начальства. Чаму Вас не задавальняюць мінулагоднія вынікі?**

— Ведаеце, на гэтае пытанне нельга адказаць адназначна. З аднаго боку, праваахоўнымі органамі краіны ў мінулым годзе праведзена вялікая работа па ўмацаванню правапарадку, забеспячэнню бяспекі людзей і захаванню стабільнасці ў грамадстве. Але гэтага аказалася недастаткова, каб істотна палепшыць крымінагенную сітуацыю ў краіне.

Узровень злачыннасці застаецца даволі высокім. За мінулы год зарэгістравана 128 тысяч 420 злачынстваў, што на 1181 злачынства больш, чым у 1996 годзе. Рост, на першы погляд, нязначны — усяго 0,9 працэнта. Але ж не можа не насцярожваць той факт, што значна павялічылася колькасць цяжкіх злачынстваў. У мінулым годзе іх было зарэгістравана амаль 53 тысячы. У пэўнай ступені рост гэты тлумачыцца зменамі ў заканадаўстве, у якім апошнім часам быў расшыраны пералік злачынстваў, што адносяцца да катэгорыі цяжкіх. Але разам з тым варта прызнаць і рэальнае павелічэнне такіх злачынстваў.

Фактычна ва ўсіх рэгіёнах краіны, за выключэннем Гродзеншчыны і Гомельшчыны, адбыўся рост (на 5,8 працэнта) колькасці наўмысных забойстваў і замахаў на жыццё грамадзян, цяжкіх цялесных пашкоджанняў (на 4 працэнты), разбойных нападаў і грабяжоў (адпаведна на 5 і 7 працэнтаў). Складваецца ўражанне, што праваахоўныя органы мала што робяць, каб папярэдзіць цяжкія злачынствы.

Не ўдалося, на жаль, у мінулым годзе спыніць рост злачыннасці і сярод непаўналетніх. Летась нашыя непаўналетнія суграмадзяне ўчынілі амаль 10 тысяч злачынстваў. Прычым кожнае пятае такое злачынства зарэгістравана ў Мінскай вобласці. На маю думку, рост падлеткавай злачыннасці з'яўляецца вынікам дрэннай прафілактычнай работы інспекцый па справах непаўналетніх. Гэтая служба, між іншым, зараз перажывае не лепшыя часы: скараціліся штаты, знізіўся прафесійны ўзровень супрацоўнікаў. І не дзіўна, што падлеткі з'явіліся нават у саставе бандыцкіх груп.

Дзеля справядлівасці хачу адзначыць, што і многія пракуроры таксама неналежным чынам працуюць па папярэджанню злачыннасці і правапарушэнняў сярод падлеткаў.

І яшчэ. Хіба можна быць поўнасцю задаволеным вынікамі работы праваахоўных органаў за мінулы год, калі так і не ўдалося выявіць вінаватых ва ўчыненні 41 тысячы злачынстваў, у тым ліку нераскрытымі засталося больш як 29 тысяч крадзяжоў. Праўда, летась праваахоўным органам удалося раскрыць 2390 злачынстваў, якія засталіся ў спадчыну ад мінулых гадоў. Сёлета праваахоўным органам неабходна значна палепшыць работу па ўмацаванню правапарадку.

**— Алег Аляксандравіч, у мінулым годзе Беларусь сутыкнулася, бадай, з самым небяспечным злачынствам — тэрарызмам. Смерць старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага прымусіла кіраўніцтва нашай краіны засяродзіць увагу праваахоўных органаў не толькі на праблеме ўзмацнення барацьбы з тэрарызмам, але і з арганізаванай злачыннасцю. Кайрдынаваць гэтую работу прэзідэнт даручыў пракуратуры. Ці можна сёння падвесці пэўныя вынікі расследавання тэракта ў Магілёве і наогул, ці задаволены Вы дзейнасцю падраздзяленняў, якія займаюцца барацьбой з арганізаванай злачыннасцю?**

— Што датычыць забойства Яўгена Пятровіча Мікалуцкага, то, як ужо паведамлялася, следства дасягнула пэўных поспехаў пры расследаванні гэтай справы, арыштаваны падазраваемыя.

А наконт барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, то я лічу, што адпаведныя падраздзяленні пракуратуры, МУС і КДБ спрацавалі не вельмі эфектыўна.

Наогул, аналіз барацьбы з арганізаванай злачыннасцю сведчыць, што ў дзейнасці адпаведных праваахоўных структур шмат недапрацовак. Напрыклад, у многіх рэгіёнах не наладжаны улік злачынстваў, якія ўчыняюцца арганізаванымі групамі, ды і не ўсе яшчэ «аўтарытэты» трапілі пад пільны кантроль праваахоўных органаў.

Такая бесклапотнасць мясцовых праваахоўных органаў вельмі трывожыць. Бо маштабы дзейнасці арганізаваных злачынных груп пашыраюцца, злачынцы павышаюць сваё майстэрства, удасканальваюць метады канспірацыі, яны аб'ядноўваюць свае сілы, каб процістаяць праваахоўным органам. Пачаўся працэс паступовага зліцця двух небяспечных сацыяльных з'яў — арганізаванай злачыннасці і тэрарызму. Падобныя злачынныя «гібрыды» адрозніваюцца ад звычайных крымінальных груп высокім узроўнем тэхнічнай аснашчанасці і ўзброенасці. Нярэдка арганізаваныя злачынныя групоўкі валодаюць поўнай інфармацыяй аб намерах праваахоўных органаў, што сведчыць аб іх цесных сувязях альбо з самімі супрацоўнікамі гэтых структур, альбо з іншымі адказнымі чыноўнікамі.

**— Арганізаваная злачыннасць, як вядома, з'яўляецца спрадвечнай спадарожніцай карупцыі. Мінулы год быў даволі ўраджайны на «гучныя» справы, у якіх фігуруюць высокапастаўленыя чыноўнікі і іншыя вядомыя ў Беларусі асобы. А як наогул праваахоўныя органы змагаліся з праявамі карупцыі ў нашай краіне?**

— Нягледзячы на шэраг, як вы адзначылі, «гучных» спраў, у цэлым гаварыць аб значных поспехах у барацьбе з карупцыяй яшчэ рана. У мінулым годзе, у прыватнасці, да крымінальнай адказнасці за хабарніцтва было прыцягнута 260 чалавек, за злоўжыванне ўладай і службовым становішчам — 42.

Разам з тым, па нашых звестках, маштабы злоўжыванняў і прадажнасці чыноўнікаў у краіне немалыя. Але многія карупцыянеры, відавочна, усё яшчэ адчуваюць сябе ў адноснай бяспецы, паколькі праваахоўныя органы не вельмі актыўна змагаюцца з гэтым відам злачыннасці. Сёлета гэтую праблему, таксама як і барацьбу з арганізаванай злачыннасцю і тэрарызмам, мы возьмем пад самы пільны кантроль.

**— Безумоўна, жорсткасць і бескампраміснасць у барацьбе з такімі небяспечнымі праявамі злачыннасці як, напрыклад, тэрарызм ці хабарніцтва, апраўданыя. Але нярэдка здараецца, што за краты трапляюць грамадзяне, якія ўчынілі зусім нязначныя злачынствы. Можа таму, нягледзячы на праведзеную напрыканцы 1996 года амністыю, сітуацыя ў месцах пазбаўлення волі фактычна так і не змянілася ў лепшы бок: калоніі і следчыя ізалятары па-ранейшаму перапоўненыя.**

— Сапраўды, вельмі слушная заўвага. У мінулым годзе судамі Беларусі было асуджана 64 тысячы чалавек, у тым ліку больш як 23 тысячы — да пазбаўлення волі. Разам з суддзямі мы, пракуроры, таксама нясём адказнасць за законнасць і абгрунтаванасць прыгавораў. У мэтах выпраўлення судовых памылак пракурорамі ў мінулым годзе былі апратэставаны ў касацыйным парадку рашэнні суда ў адносінах да 1566 асуджаных. У парадку нагляду пракурорамі ўнесена 557 пратэстаў на судовыя рашэнні ў адносінах да 1111 чалавек. І ўсё ж мяне, напрыклад, насцярожвае статыстыка карнай практыкі ў нашай краіне, калі ў раёнах, якія маюць прыблізна аднолькавы ўзровень злачыннасці, розніца ў колькасці асуджаных да пазбаўлення волі складае дзесяць і больш працэнтаў. Тут ёсць падставы для грунтоўнага аналізу, і мы яго зробім. Хачу адзначыць, што мы супраць такой судовай практыкі, калі за малазначныя злачынствы назначаюцца пакаранні ў выглядзе пазбаўлення волі. Адпаведныя прапановы намі ўжо накіраваны ў судовыя інстанцыі. У той жа час мы лічым, што за цяжкія злачынствы неабходна прымяняць больш жорсткія меры пакарання.

Не заўсёды ўзважана, як сведчыць статыстыка, пракурорскія работнікі падыходзяць да вырашэння пытання аб выбранні меры ўтрымання ў выглядзе арышту. Напрыклад, у мінулым годзе суды краіны вызвалілі з-пад арышту амаль паўтары тысячы чалавек, і ў той жа час у зале суда было ўзята пад варту 2100 чалавек.

Я вымушаны прызнаць, што разам з органамі МУС мы не заўсёды выкарыстоўваем законныя магчымасці для зніжэння напружанасці ў папраўча-працоўных установах. Напрыклад, летась у суды намі было прадстаўлена для ўмоўна-датэрміновага вызвалення каля 300 асуджаных. Аднак у хуткім часе нашы праверкі паказалі, што ў следчых ізалятарах і папраўча-працоўных установах знаходзяцца амаль 4 тысячы чалавек, якіх можна было б вызваліць і перадаць пад нагляд спецкамендатур. Тым больш, што спецкамендатуры маюць магчымасць дадаткова прыняць больш як 2 тысячы асуджаных.

**— Алег Аляксандравіч, мінулы год быў для Вас, пэўна, своеасаблівым годам рэалізацыі сваіх задумак, з якімі напрыканцы 1996 года вы прыйшлі на пасаду Генеральнага пракурора. Якія з намечаных планаў Вам удалося рэалізаваць, а якія хацелася б ажыццявіць у бліжэйшай будучыні?**

— Шчыра кажучы, я не планаваў нейкіх буйнамаштабных пераўтварэнняў у органах пракуратуры. Было адно жаданне: каб падначаленая мне дзяржаўная структура працавала зладжана і эфектыўна. Наколькі гэта ўдалося, самому меркаваць не вельмі карэктна. Адзначу толькі, што большасць супрацоўнікаў органаў пракуратуры — як кіраўнікі, так і падначаленыя, добрасумленна і адказна адносяцца да сваіх службовых абавязкаў, робяць усё магчымае для ўмацавання законнасці і правапарадку ў нашай дзяржаве. У прыватнасці, у мінулым годзе пракуратурай выпрацаваны шэраг мераў па ўзмацненню нагляду за выкананнем законаў аб барацьбе з тэрарызмам, арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй, наркаманіяй, наўмыснымі забойствамі і замахамі на жыццё і здароўе людзей, службовымі і эканамічнымі злачынствамі, аб абароне жыллёвых правоў грамадзян, забеспячэнні гарантый недатыкальнасці асобы і многіх іншых.

Выконваючы даручэнне прэзідэнта, пракуратура сумесна з Міністэрствам унутраных спраў распрацавала праект новай дзяржаўнай праграмы па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю. Мною прадстаўлены на разгляд парламента праект Закона аб прафілактыцы правапарушэнняў. Дарэчы, гэты законапраект падтрымаў кіраўнік нашай дзяржавы.

Пэўныя пазітыўныя змены адбыліся і ўнутры пракуратуры. Ажыццёўлены шэраг мераў па ўдасканаленню арганізацыі працы і кадравай палітыкі. Інтэнсіўна праводзілася навучанне пракурорскіх работнікаў, і ў першую чаргу маладых спецыялістаў, колькасць якіх летась павялічылася больш чым на 100 чалавек. Наогул, дзякуючы падтрымцы прэзідэнта асабовы састаў органаў пракуратуры павялічыўся на 159 супрацоўнікаў. Напрыканцы мінулага года былі створаны новыя падраздзяленні: па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, а таксама па нагляду за законнасцю ў мытных і падатковых сферах. Узмоцнены службы па нагляду за папярэднім расследаваннем, створаны інспекцыі па асабоваму саставу.

А планы на бліжэйшую будучыню застаюцца ранейшыя: рабіць усё магчымае дзеля забеспячэння законнасці і правапарадку ў нашай дзяржаве.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**






**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Кожны зведае час, калі нельга не бачыць,*
*Калі нельга не чуць,*
*Калі нельга маўчаць —*
*Час пазыкі вяртаць, спадзявацца і дзячыць,*
*І грамнічную свечку з-за ікон даставаць.*
*Абярогу маю — кроплю кволай надзеі —*
*Захіну ад вятроў і завеяў ліхіх,*
*Той крывінкай агню аціплю, абагрэю*
*Ўвесь мой край, што ў зімовай нямоце заціх.*

**Не ўпершыню прадстаўляючы чытачу паэта Змітрака Марозава, яго вершы, думаю пра тое, што гэты руплівец паэтычнага цэха падобны на аратая, які з дня на дзень вядзе сваю цяжкую баразну. Паэзія — гэта катаржная праца. Але робіцца яна дзеля святла, дзеля нашай увагі да дабрыні, да спагады і чуласці. Так і ў аратая. Спярша — праца да стомы, да поту праца, а толькі ўжо пасля радасць здабыткаў і плён ураджаю на паэтычнай ніве.**

**Ніва паэта Змітрака Марозава сёння ўраджайная. І справа тут не ў колькасці выдадзеных кніг. Справа хутчэй у значнасці, трываласці выпеставанага паэтам радка. Змітрок Марозаў, ведучы роўную баразну, усё ж і шукальнік. Так, шукальнік у межах і на працягу самім абранай баразны. Але яна — бясконцая, шырокая, шматгранная кожным драбочкам чарназёму, тарфяніку, суглінку, усяго, што трапляецца па дарозе рупліваму аратаю паэту Змітраку Марозаву.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Змітрок МАРОЗАЎ

❧

Знямела восеньская муза.
Бывай. Цябе я не трымаў.
І не шукаў з табой саюза, —
Я проста верыў і кахаў.

Я жыў табой. Нам Боскім шчасцем
Сустрэча кожная была...
Ды ты за мёд хвіліннай страсці
Сваё каханне прадала.

Бывай. Цябе я не трымаю.
І больш ні ў чым не папракну,
Бо па-ранейшаму кахаю
Адну цябе. Цябе адну.

❧

«Каханне абавязвае, —
Сказала сумна ты, —
Яно душу прывязвае
На доўгія гады.

Жадаю быць свабоднаю
Ў паводзінах сваіх...»
Мы ўсе залежым, родная,
Ад дзей і спраў людскіх.

Людзям я абавязаны,
І хлебам, і радком...
Табой жа я прывязаны
Нябачным ланцужком.

Таму табе, адзіная,
Я зноў хачу сказаць,
Што повязь гэту дзіўную
Гадам не разарваць.

❧

Куды падзелася каханне?
Дзе мары-сны былой вясны?..
Адзін, як выкляты выгнаннік,
Стаю на сіберы скразным.

Адзін. Нікому не патрэбны,
У Бога літасці прашу,
Як той жабрак у кайстры хлебнай;
«Вярні яе ў маю душу».

Самотная, без развітання,
Пайшла, мае забраўшы сны...
Адзін, як выкляты выгнаннік,
Стаю на сіберы скразным.

❧

Не расказаць, што робіцца са мной,
Табой адной хварэю я штодзённа.
І вызначае дня майго настрой
Твой галасок у трубцы тэлефона.

Не ведаю, што робіцца са мной,
Ты за мяжою светаразумення...
Няўжо згару я ў полымі натхнення,
Зазнаўшы подых тайны незямной?

❧

Дай мне, Божухна, сілы
З ёй не бачыцца больш,
Каб забыць вобраз мілы,
З сэрца выкінуць боль.

Дай мне веры ў чаканні,
Каб душу не прадаць,
Развітацца з каханнем,
Каб ізноў пакахаць.

❧

Дагарае мая зара
Па-над заваддзю лебядзінаю...
Я жадаю табе дабра,
Залацінка мая адзіная.

Хай цябе зберагае Бог,
Калі жытка твая пахіліцца...
А што ў сэрцы сваім збярог,
Залацінкамі ў песні выльецца.

❧

Пакуль душа не анямела,
Жадаю я цябе кахаць,
І сэрца, што ў пакутах млела,
Адной табе падараваць.
Каб ты, што столькі з ім калела,
Змагла, нарэшце, акрыяць...
Пакуль душа не анямела,
Жадаю я цябе кахаць.

❧

Я спадзяюся на спатканне
Праз год, праз два, праз тры, праз пяць...
За тое, каб жыло каханне, —
Гатоў я цэлы век чакаць.

Адсеюцца міжволі з часам
Твае залётныя сябры,
І мы, нарэшце, будзем разам
Не год, не два гады, не тры...

### КАХАННЕ

Я пра Вас не ведаю нічога,
І нічога ведаць не хачу,
Бо люблю, люблю Вас, як нікога, —
Да слязін пякучых уваччу.

Хоць на крылах пачуцця жывога
Разам з Вамі я да зор лячу,
Я пра Вас не ведаю нічога,
І нічога ведаць не хачу.

### ПАЭТ

Прысніўся мне адзін сюжэт
Шчымліва-невясёлы:
Ляцеў над горадам паэт
У выглядзе анёла.

На ліры граў ён спакваля
Мелодыю натхнёна...
Але пачулася здаля:
«Што гэта за варона!
Што ёй патрэбна тут? Ану!
Злятай, крумкач, да долу!..»
І жлоб раскормлены шпурнуў
Бананам у анёла.

Натоўп шматгорлы рагатаў
На вуліцах смуродных:
«Бач, быццам сажа, чорным стаў
Анёл высакародны!»

І змоўк пакрыўджаны паэт,
І з лірай разлучыўся.
Пакінуў горад. Выкляў свет.
І воранам зрабіўся.

**Акционерный коммерческий банк «Поиск» извещает своих акционеров, что очередное собрание акционеров состоится 17 марта 1998 года.**

ПОВЕСТКА ДНЯ:

1. Отчет Наблюдательного и Исполнительного советов банка.
2. Отчет Правления о работе банка и распределении прибыли по итогам 1997 года.
3. Отчет Ревизионной комиссии.
4. Основные направления деятельности банка в 1998 году.
5. Разное.

Акционеры могут участвовать в собрании лично или через своих представителей. Полномочия представителей должны быть соответствующим образом заверены. Для регистрации на собрании акционерам необходимо иметь при себе:

юридическим лицам — *сертификаты акций (для представителей — доверенность на делегирование полномочий с указанием количества голосов и документ, удостоверяющий личность представителя);*

физическим лицам — *сертификаты акций и паспорт (для представителей — доверенность и паспорт).*

**Собрание будет проводиться по адресу:**
***г. Минск, ул. Ф. Скорины, 1.***

Начало собрания в 14.00.
Начало регистрации в 13.00.
Контактный тел. 228-49-31.

**Наблюдательный и Исполнительный советы банка.**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

СТАРЫЯ КАЗКІ НА НОВЫ ЛАД

# КУРАЧКА РАБА

Жылі дзед і баба. Ціха жылі, небагата. Елі сала, капусту квашаную ды бульбу ў лупінах — там вітамінаў болей.

І ўсім былі задаволеныя.

Пакуль унучак не прывёз з горада тэлевізар і маладзенькую курачку.

Даведаліся старыя, што нехта ў свеце жыве і лепей, і цікавей, і сыцей.

Толькі галавою хіталі. Курачка ж пасміхалася:

— Не гаруйце: зараз новы серыял пачнецца — і ў вас жыццё зменіцца.

Так і сталася. Пачаўся тэлесерыял «Санта-Пухавічы». І неўзабаве курачка Раба (была яна рабенькая) знесла яечка.

Не простае яечка, а залатое.

Радуецца дзед, радуецца баба.

Радуецца курачка Раба.

Сумуе адна мышка. Не звяртаюць на яе ўвагі, толькі з курачкі нацешыцца не могуць. Хоць воўкам вый, ці ператварайся ў яго. Каб курку з'есці.

Думала-думала, як адпомсціць, і зірнула ў тэлевізар. А там фільм пра мафію. Распраўляюцца рэкеціры з нейкім бізнесменам.

«Ага, — думае мышка, — варты досвед. Я іх таксама «кіну».

Тым часам дзед з бабкай паклалі на стол яечка. Пагладжваюць Рабу і думаюць, што б зрабіць з першапачатковым капіталам. Можа, яшчэ адну курачку купіць?

А мышка выбегла і зачапіла хвастом яечка. Яно ўпала ды разбілася.

Плача дзед, плача бабка.

— Не тужыце, — супакойвае іх курачка Раба. — Пачнецца новая серыя «Санта-Пухавічаў» — зноў знясу.

Гэтак і сталася.

Але жыў у той вёсцы войт. Хцівы і хітры. Даведаўся пра першае яечка, але прамаўчаў. Калі ж далажылі, што вось-вось новае з'явіцца, пачаў цікаваць за хатаю (меў падслухвальнае прыстасаванне). І толькі з курачкі выпала залатое яечка, ён у дзверы — і хваць за яго.

— А гэта, — кажа, — ужо звышдаходы. Вы і першае яечка ад падаткаў прыхавалі, і другое хацелі.

— Дык першае ж мышка разбіла.

— Вашы праблемы.

І шмыг з хаты, бубнячы пад нос:

— Бач іх, захацелі вытыркнуцца.

Плача дзед, плача бабка.

Плача курачка Раба.

Як ім жыць? Знясе новае яечка курачка, дык ці мышка разаб'е, ці войт забярэ.

А тут і тэлевізар сапсаваўся. Варона раззлавалася, што ў хату не пускаюць, дык антэну скрала.

Слёз у хаце яшчэ больш стала. Нават мышка расстроілася.

Плакала, плакала курачка ды і знесла яечка. Не залатое, а звычайнае. А пасля яшчэ адно.

Дастала бабка патэльню і падсмажыла іх.

Так і сталі жыць далей: з голаду не паміралі, але і не жыравалі.

А потым прыйшлі маразы, і курачка Раба ўвогуле перастала несціся.

**Міхал ТАЛОЧКА.**




**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

**Максім ЛУЖАНІН**

### Марнатравец

Як ні спяшаецца навысціг,
Але з ягонага пяра,
З яго патуг — усёй карысці,
Як з тыльнай лыткі камара.

### Акуратыст

На службу возьмуць — непагана
Ён можа выканаць загад.
А ўласны погляд, а стараннасць?
Ну, іх не больш, чым на аклад.

### Парада падхаліму

Жыць прывучайся без турботы,
Калі пяюць, трымай фасон:
Нібы што кеміш — зыр у ноты,
А больш глядзі на камертон.

### Фарсісты

Тужэй падцягваючы пасак,
Казаў мой продак Каратай:
«Хоць за сталом не еў ты мяса,
Але ў зубах пакалупай».

### Пачаткоўцу

Ты маеш думку? — абзавіся,
Не маеш думкі — памаўчы,
І так радкоў кульгавых высеў
Навокал сыплюць рыфмачы.

### Задзіраку

Калісь былі тэрэадоры
І гладыятары былі.
Калі падобны маеш нораў,
Дык скочкі шылам не калі.




**Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.**

ПАРОДЫІ

**Міхась СКОБЛА**

## ПАЭТ І ЦАРЫ

*Хоць бедны я, ды востры на язык,*
*служыць царам не ўмею, не прывык,*
*і неаднойчы кончыкам пяра*
*я забіваў магутнага цара...*
**Хв. ЖЫЧКА**

Як мой пячорны продак на звяроў,
я паляваў бясстрашна на цароў.
Я іх спачатку вершамі смяшыў,
пасля пяром, як доўбняю, глушыў.
А потым я казаў натхнёна «цыц»
і мужна падступаўся да царыц...
Зайздросціў Грынявіцкі мне Ігнат —
ён аднаго, а я іх знішчыў шмат.
Бывала, ледзь паспееш рот адкрыць,
а цар ужо кантужаны ляжыць.
Здавалася, такі магутны цар!
За кожнага плацілі ганарар.
Спрачаліся калегі па пяры —
не дагадзілі Жычку чым цары?
Ні прэмій не далі, ні медаля.
Няхай ім пухам станецца зямля.
А чытачы звярнуліся ў ААН:
— Мо ёсць яшчэ на свеце цар ці хан?
Народы! Дэмакратыя найперш —
хай Жычка прачытае яму верш...

АНЕКДОТЫ

Два «новыя рускія», п'яныя ў сцельку, выходзяць з начнога клуба.

— Добра ж як, братан, — кажа адзін, — вось і зяблік спявае!

— Ты што, з глузду з'ехаў? Якія зяблікі? Гэта фарэль спявае!

— Ну, ты ў натуры! Якая ж фарэль ноччу?!

* * *

*У турме размаўляюць два наглядчыкі:*

*— Ты ведаеш, Сяргей, мяне пачынае непакоіць асуджаны Сідараў.*

*— У сувязі з чым?*

*— Ужо пятую ноч у камеры не начуе.*

* * *

У горадзе два п'янтосы распіваюць бутэльку гарэлкі. Раптам бачаць — ідзе іх любімы кінаартыст. Ад нахлынуўшых пачуццяў яны прапаноўваюць яму выпіць.

— Што? Гарэлку? Шклянкай? — грыміць артыст добра пастаўленым голасам. — У такую спякоту?

Мужыкі стаяць ні жывыя, ні мёртвыя.

— Без закусі? — крычыць артыст. — Налівай!

**ЦЕНТР «ДЫХАНИЕ ПО БУТЕЙКО»**

Метод кандидата медицинских наук врача-терапевта К. П. Бутейко гарантирует полное излечение астмы, бронхита, полипов, отека Квинке, пневмонии, полинозы, болезни Рейно, липомы, подагры, всевозможных аллергий, полиартрита, холецистита, эндометриота, синусита, лорингита, гайморита, гипертонии, стенокардии, эпилепсии, судорожного синдрома, остеохондроза, энуреза, геморроя, щитовидной железы, узлового зоба, варикоза, тромбофлебита, экземы, псориаза, нейродермита, гастрита, язвы желудка, желчемочекаменной болезни, мастопатии, бесплодия, ожирения, запоров, колитов, гриппа, ОРЗ и т. д.

Принимаются заказы на пересылку пособий для занятий на дому по безлекарственному научно обоснованному методу доктора Бутейко К. П.

***Телефон ведущего специалиста только в Быхове: (02231) 3-65-23.***

ООО «ГОБАЛИС» ЛИКВИДИРУЕТСЯ. ПРЕТЕНЗИИ ПРИНИМАЮТСЯ В ТЕЧЕНИЕ 2-Х МЕСЯЦЕВ.

# ЛЯСЫ-БАЛЯСЫ



**На погляд большасці айчынных крытыкаў, самы моцны драматург у Беларусі сёння — Алена Папова. Гэта даказаў і конкурс, які ладзіла Міністэрства культуры летась. Твор Алены Паповай «Развітанне з радзімай» атрымаў вышэйшую ўзнагароду. Яе п'есы ставіліся не толькі ў Мінску, Брэсце, Віцебску, але і за межамі рэспублікі — у Маскве, Пецярбургу, іншых гарадах Расіі і нават у Германіі. Алена Папова — пераможца І Еўрапейскага конкурсу п'ес у Германіі (1994 г.), лаўрэат рэспубліканскіх конкурсаў п'ес (1995 і 1997 г.). Аднак не кожны твор Алены Георгіеўны трапляе на сцэну. Не кожная напісаная п'еса наогул выходзіць за межы яе працоўнага кабінета! Калі вынік шматдзённай працы не задавальняе аўтара, Алена Георгіеўна адмаўляецца ад п'есы, забывае пра яе існаванне...**

## Алена ПАПОВА: «Я АДЧУВАЮ ТЭАТР УНУТРЫ СЯБЕ»

**— Драматургія — незвычайны від літаратуры. Як вы зацікавіліся ёю?**

— Некалі я займалася ў тэатральнай студыі «Юнацтва» пры Палацы чыгуначнікаў. Кіраваў калектывам Уладзімір Балабохін. Я іграла ў спектаклях «Антыгона», «Лазня», «Жыццё насякомых». Пад уплывам акцёрскай працы паспрабавала напісаць першую п'есу — пра мастака. Потым была другая п'еса, потым — Літаратурны інстытут, і, нарэшце, я трапіла на конкурс драматургаў пад кіраўніцтвам вядомага Віктара Розава. Хочацца ўспомніць добрым словам нашага суайчынніка Андрэя Макаёнка. Ён рэкамендаваў мяне ў інстытут і потым падтрымліваў. Пра Віктара Розава так сказаць нельга. У яго не было ўнутранай патрэбы дзяліцца з намі сваімі ведамі. А Андрэй Макаёнак любіў дзяліцца. Кожную п'есу ён быў гатовы чытаць некалькі разоў, каб зрабіць сапраўдны аналіз. Шмат хто з нашых пісьменнікаў абавязаны яму сваім узлётам. Адзінае, што сказаў мне Віктар Розаў, калі я ў яго вучылася: «Вы, Алена, — драматург».

**— Як адрозніваецца «драматычны» тып мыслення ад «празаічнага»?**

— Мысленне «прозай» — гэта своеасаблівае эпічнае стаўленне да жыцця, павольны рух па хвалях часу, а «драматычны» тып — гэта пачуццё ўнутранай напружанасці, канфлікт, трагізм. Адрозненне сапраўды вялікае! Проза — проста жыццё, а драматургія — яе схаваная сутнасць.

**— Ці ўплываюць вашы творы на асабістае жыццё?**

— Для мяне пісаць — што дыхаць. П'есы і ёсць маё жыццё. Можна сказаць так: жыццё працягваецца на паперы. Гэтую сувязь нельга разарваць.

**— Хто з вядомых драматургаў паўплываў на вашу творчасць?**

— Некалі я сапраўды шмат чытала. Зараз — крыху менш. Але ж назаўсёды засталіся ў памяці імёны любімых твораў. Па-першае, — гэта Уільямс. Потым — Чэхаў, асабліва яго «Дзядзька Ваня». Аднак Чэхаў «набіў» аскоміну сваёй хрэстаматыйнасцю. Нас «закармілі» Чэхавым. Яшчэ імёны? Ібсен, Шэкспір, Астроўскі. Праўда, да Астроўскага я ў апошні час крыху астыла. Можа, гэта часова, Ды і наогул кожны з прачытаных твораў зрабіў свой уплыў. Нават калі слухаю музыку, усё роўна «пішу». Не логікай, а пачуццём пачынаеш разумець сцэнічны склад мелодыі. Усякае сапраўднае мастацтва хавае адзін і той жа сакрэт.

**— Вы звязваеце сябе з тэатральным асяроддзем ці лічыце сябе часткай кола літаратараў?**

— Наогул я — пісьменніца. Але ж пісьменніца, якая адчувае ў сабе тэатр. Тэатр знаходзіцца ў маім мысленні. Таму мне не абавязкова звязваць сябе з тэатральным светам. Ён заўжды са мной.

**— Чаму, на ваш погляд, драматургія знаходзіцца ў «дрымотным» стане?**

— Я так не лічу. Калі ідзе гаворка пра мяне, — я ніколі ў жыцці не «драмала». І не толькі я адна.

**— І ўсё ж наша драматычнае мастацтва знаходзіцца не на «ўзлёце»...**

— Трэба з павагай ставіцца да айчынных талентаў, умець цаніць прарока ў сваёй айчыне. Было б лепш, каб рэжысёры больш цікавіліся сучаснай айчыннай драматургіяй. Нарэшце, мы павінны паважаць сваю краіну, таму што талент з'яўляецца часткай нацыянальнага скарбу.

**— У вольную часіну чым займаецеся?**

— Чытаю, гуляю... На жаль, час для адпачынку знаходзіцца не заўсёды. Калі ў цябе ёсць сям'я і цікавая справа, — гэта пытанне ўвогуле не паўстае.

**— Якая тэма хвалюе сёння? Аб чым марыце напісаць?**

— Тэма — гэта не тое слова. Лепш бы вы запыталіся: «Якая мелодыя лунае ў вашых думках?» Тэма маіх твораў — гэта нейкая недагаворанасць, пошук, асэнсаванне. А калі раптам зазначыць тэму, загнаць яе пад рубрыку, — згіне тайна, спыніцца творчы працэс. Сёння я адчула, як у думках з'яўляюцца вобразы маіх будучых герояў. Яны ўжо дыхаюць, існуюць...

**Гутарыў Андрэй АХМЕТШЫН.**


## Усё пра Беларусь вядома, калі «Звязда» ў вашым доме!

**Паважаныя чытачы «Звязды», мы працягваем традыцыю. Па-першае, зноў аб'яўляем латарэю сярод падпісчыкаў нашай адзінай штодзённай беларускамоўнай газеты. Па-другое, мы перакананы, што прадукцыя многіх беларускіх прамысловых прадпрыемстваў адпавядае самым высокім патрабаванням спажыўцоў, і не толькі айчынных, але і тых, якія карыстаюцца ёю ў краінах СНД, а таксама ў далёкім замежжы. Таму з задавальненнем паведамляем, што ў новым розыгрышы звяздоўскай латарэі будуць прадстаўлены тавары**

***ААТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод»***

***Лідскага завода электравырабаў***

**Увага: латарэя «Звязды» і рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта»!**

**❶ Картка ўдзельніка (падпісчыка «Звязды») розыгрышу латарэі**

Прозвішча, імя, імя па бацьку ______________________

Падпіска афармлена і аплачана ў ______________________
(аддзяленне сувязі)
______________________ на тры месяцы

Хатні адрас і тэлефон ______________________

*Апошнім часам прадукцыя гэтых прадпрыемстваў разыходзіцца, як кажуць, прама з канвеера. Чаму, безумоўна, мы ўсе вельмі рады.*

*Выпісвайце «Звязду»! Выйгравайце высакаякасныя і надзейныя вырабы айчынных вытворцаў!*






**Электрашынкоўка, электрамясарубка «Памочніца», электрадрыль «Майстар», электрапрасы, прыборы для завіўкі валасоў «Надзейка», глюкамеры.**

*Галоўны прыз — электрашафа-грыль «Свіслач»*



ЛІДСКІ ЗАВОД ЭЛЕКТРАВЫРАБАЎ

**Люстры «Газнічка», бра «Газнічка», люстры «Руно», «Верас», бра «Верас», а таксама настольныя лямпы.**

*Галоўны прыз — люстры «Марс»*

**ЗВЯЗДА** *Разыгрываюцца падпіскі на газету «Звязда» на II паўгоддзе 1998 года.*


Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______________________
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ______________________
(прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | |

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______________________
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ______________________
(прозвішча, ініцыялы)

***Сітуацыя знаёмая ледзь не кожнаму: позні вечар, вы, стомленыя падзеямі і ўражаннямі мінулага дня, заходзіце на кухню, каб перад сном выпіць чаю. Шчоўкаеце выключальнікам. І... З ціхім шорганнем па стале, падлозе, па сценах, забіваючыся ва ўсялякія шчыліны, як мініяцюрныя ніндзя ў паніцы разбягаюцца... Хто? Ну, канешне ж, прусакі...***

# НЕВЫНІШЧАЛЬНЫЯ



### ЭКСКУРС У ГІСТОРЫЮ

Сама назва гэтага малапрыемнага насякомага «прусак» намякае нам на нейкую яго сувязь з Прусіяй — гістарычнай вобласцю Германіі. Менавіта адтуль, па сцвярджэнню расійскіх патрыётаў пазамінулага стагоддзя, у сялянскія хаты і зямлянкі, купецкія палацы і дваранскія маёнткі перабраўся рыжы прусак. Справа ў тым, што ўсе непрыемнасці ў XVIII стагоддзі — ад акалелай кабылы да сялянскіх паўстанняў — па некаторых гістарычных прычынах прынята было звязваць з Прусіяй ці, у крайнім выпадку, — Аўстра-Венгрыяй.

Дарэчы, жыхары Захаду таксама ў даўгу не засталіся, абазваўшы полчышчы насякомых, што акупіравалі і іх жыллё, «рускім жуком».

Згодна з праведзенымі не так даўно даследаваннямі, рыжы прусак трапіў спачатку ў Паўднёвую Еўропу, а потым рассяліўся па ўсім кантыненце ў самым пачатку XVIII стагоддзя (па іншых крыніцах — у канцы XVIII ст.). Завезены ў Еўропу ён быў, хутчэй за ўсё, з Паўднёвай Азіі, дзе дагэтуль у вялікай колькасці сустракаецца ў падсцілцы трапічных лясоў. Міжвольнымі распаўсюджвальнікамі прусака сталі купцы, дакладней іх гандлёвыя судны. Цёплыя, вільготныя і багатыя ежай дамы еўрапейцаў сталі дастойнай заменай трапічнага лесу.

Здольнасць рыжага прусака да хуткага аднаўлення сваёй колькасці нават пасля масавых пагромаў, унікальная здольнасць прыстасоўвацца да розных умоў жыцця і ўвайшоўшая ў легенды жывучасць дазволілі гэтай «рыжай шэльме» рассяліцца паўсюдна. Вядома, што калі невялікі горад апынецца ў цэнтры лакальнага ядзернага канфлікту, дык у жывых застануцца толькі прусакі і яшчэ, магчыма, — пацукі.

Чалавечае жыллё таксама вельмі прывабнае для блізкага сваяка прусака — чорнага прусака (Blatta orientalis). Гэта куды большае (18—30 мм супраць 10—20 мм у рыжага прусака) насякомае. Акрамя памеру, ад рыжага чорны прусак адрозніваецца глянцавым чорным целам і агідным пахам, што зыходзіць ад насякомага, калі яго патурбаваць.

Чорны прусак, хоць і з'явіўся на еўрапейскім кантыненце намнога раней за рыжага, у самым пачатку XVII стагоддзя, але так шырока, як яго светлы сваяк рассяліцца не змог. Гэта адбылося, відаць, з-за таго, што цыкл развіцця чорнага прусака намнога даўжэйшы — да 4 гадоў, супраць 75—175 дзён у рыжага прусака. Г. зн., за той час, пакуль у чорнага прусака змяняецца адно пакаленне, рыжы «абнаўляецца» 5-6 разоў. А калі ўлічыць, што размнажаюцца гэтыя «ніндзя» ў геаметрычнай прагрэсіі, можна ўявіць сабе ўсё пакаленне адной самкі прусака.

Радзіма чорнага прусака вядома толькі вельмі прыблізна — трапічныя лясы Заходняй Афрыкі.

Апошнім часам у беларускай прэсе пачалі трапляцца звесткі аб тым, што ў некаторых гарадах рэспублікі з'явіліся нейкія дагэтуль нябачаныя прусакі: вялізныя, карычневага колеру з белаватымі разводамі па верхняй частцы цела. Малапрывабнай асаблівасцю гэтага новага віду прусака з'яўляецца тое, што ён можа пералятаць з месца на месца, што дапамагае яму рассяляцца.

Вучоныя, якія зацікавіліся гэтым «монстрам», хутка вызначылі яго відавую прыналежнасць. Навасёлам беларускіх кватэр, а часцей — падвалаў і кацельняў стаў амерыканскі мармуровы прусак, ці «перыпланета амерыкана», як называюць яго біёлагі. Адкуль ён узяўся? Не, біялагічная дыверсія заакіянскіх супастатаў тут ні пры чым. Мармуровы прусак даўно ўжо карыстаецца папулярнасцю ў еўрапейскіх — у тым ліку і беларускіх — аматараў жывёл як выдатны корм для многіх птушак, амфібій і рэптылій. Не трэба вельмі баяцца нашэсця мармуровага прусака. Па-за сваёй радзімай — Цэнтральнай Амерыкай — ён можа жыць толькі ва ўмовах спецыяльна створанага мікраклімату, дарэчы, мікраклімат кацельняў яму падыходзіць. І чорны і рыжы прусакі (сваякі перыпланеты) таксама родам не з арктычных абласцей, але з цягам часу прыстасаваліся да ўмеранага клімату.

### ЦІ ЁСЦЬ ПАНАЦЭЯ?

Непажаданасць пражывання пад дахам чалавечага жылля такіх неспакойных насельнікаў відавочная. Але нямногія ведаюць, што шкода ад чорна-рыжага племя не толькі ў тым, што цэлыя легіёны гэтых істот балююць на рэштках нашай ежы, забруджваючы яе сваімі экскрэментамі, а ў тым, што яны з'яўляюцца разносчыкамі бактэрый, якія выклікаюць такія небяспечныя хваробы, як брушны тыф, дызентэрыя, туберкулёз і многія іншыя. У кішэчніку рыжага прусака былі знойдзены яйкі многіх гельмінтаў: аскарыд, вастрыц, валасаеда і іншых.

Нехта з вялікіх сказаў, што калі ад хваробы існуе мноства лякарстваў, дык гэта азначае, што хвароба невылечная... У нейкай меры гэты выраз датычыцца і прусакоў.

Сярод мноства сродкаў, прапануемых прамысловасцю розных краін для барацьбы з прусакамі, многія маюць прыстаўку «супер» (напрыклад «Syperbad-101» і г.д.). Але нягледзячы на масавую рэкламу, на гарантыі і запэўніванні прадаўцоў, усе гэтыя сродкі ў сучаснай панельнай кватэры шматпавярховага дома малаэфектыўныя. Тэарэтычна (не ведаю, як на практыцы) можна рэкамендаваць сродак тыпу «Прусаковы СНІД», пры выкарыстанні якога насякомыя самі заражаюць адзін аднаго. Неэфектыўнасць выкарыстання хімічных атрут звязана з тым, што, па-першае, рыжы прусак мае вельмі добры цыкл аднаўлення і хутка аднаўляе папуляцыю, па-другое, абодва віды прусакоў валодаюць здольнасцю хутка выпрацоўваць імунітэт супраць любой хіміі, па-трэцяе, прусаковае племя пры масавым «пагроме» хутка ідзе «пагасціць» да суседзяў, каб перачакаць неспакойны час у цяпле і сытасці, таму «хімічная вайна» з прусакамі можа быць паспяховай толькі пры яе масавасці (адразу па ўсіх памяшканнях вялікага дома ад падвала да паддашка) і хуткасці, чаго, пагадзіцеся, магчыма дасягнуць толькі тэарэтычна.

У прыватных дамах усё намнога прасцей, тут можна не звяртацца да хіміі, а выкарыстаць даўно правераны спосаб: вымарожванне памяшкання. Для поўнага знішчэння прусакоў дастаткова зімой на суткі пакінуць памяшканне, адключыўшы ацяпленне і пакінуўшы адчыненымі вокны. Прусак вельмі цеплалюбівы: тэмпература ніжэй за 5 градусаў цяпла для яго смяротная, пры 5 градусах марозу ён гіне праз паўгадзіны, пры 7 градусах марозу — праз хвіліну.

### ЭКЗОТЫКА

Племя прусакоў не абмяжоўваецца трыма апісанымі відамі. Некалькі відаў гэтых насякомых водзіцца ў беларускіх лясах, адзін з якіх: дробны лапландскі прусак. А ўсяго на Зямлі налічваецца каля 2500 відаў прусакоў, 80 працэнтаў з якіх — насельнікі трапічных лясоў.

Магчыма, чытачу гэта здасца жудасным, але некаторыя віды прусакоў можна з поспехам утрымліваць у хатніх умовах. Некаторых прусакоў, напрыклад, аматары жывёл трымаюць як культуру для пракорму сваіх гадаванцаў, дарэчы, мы пра гэта ўжо расказвалі на прыкладзе амерыканскага мармуровага прусака.

Акрамя паўпрамысловага, існуе і яшчэ адзін варыянт утрымання прусакоў — экспазіцыйны.

Для ўтрымання ў хатніх тэрарыумах (больш правільна — інсектарыях, ад лацінскай insecta — насякомае) больш за ўсё падыходзяць яркія, буйныя віды, якія маюць цікавыя паводзіны і асаблівасці. Адзін з іх, родам з Мадагаскара, — шумячы, шыпячы, ён жа мадагаскарскі. Гэта вялікае, да 10 сантыметраў даўжынёй, насякомае. Адной з найцікавейшых яго асаблівасцяў з'яўляецца тое, што пры неспакоі прусак выдае даволі гучны гук, які нагадвае нешта сярэдняе паміж шыпеннем і свістам. Гэта ахоўная рэакцыя насякомага, што адпужвае любога супастата, які замахнуўся на яго асобу. А любое замяшанне ворага — дадатковая магчымасць для ўцёкаў.

Цікава назіраць за паводзінамі гэтых насякомых, адным з яркіх праяў якіх з'яўляюцца рытульныя баі за самак, справа іншы раз даходзіць і да членашкодніцтва — страчаныя ў выніку паядынкаў вусікі-антэны і канечнасці — не рэдкасць.

Мадагаскарскі прусак — жыхар трапічных лясоў вострава Мадагаскар, таму тэмпература яго ўтрымання не павінна апускацца ніжэй 27 градусаў цяпла. Гэтага звычайна дабіваюцца з дапамогай 15—25-ватнай лямпачкі напальвання.

Для падтрымання неабходнай вільготнасці інсектарый неабходна двойчы ў дзень злёгку апырскваць вадой з пульверызатара. У якасці паілкі выкарыстоўваюць кавалачак паралону, намочанага вадой, трэба сачыць, каб паралон заўсёды быў вільготны. Ядуць прусакі практычна ўсё: агародніну, садавіну, можна падкормліваць іх адходамі з вашага стала ці сухім кормам для акварыумных рыбак.

Пры захаванні ўсіх умоў гэтыя цікавыя насякомыя могуць і размнажацца, дзяцей яны прыносяць няшмат, таму перанасяленне вашаму інсектарыю не пагражае.

Каб «моладзь» не разбягалася (а яна даволі добра поўзае нават па вертыкальным шкле), змажце з унутранага боку краі вашай ёмістасці вазелінам ці прыклейце палоскі алюмініевай фольгі — для іх гэта непераадольная перашкода. Калі ж «мадагаскарцы» ўсё ж разбягуцца, не бойцеся. З-за вашай шафы не пачнуць выглядваць 10-сантыметровыя монстры. Гэтыя насельнікі тропікаў, у адрозненне ад прусакоў, жыць на кухні, харчуючыся аб'едкамі, не змогуць, вельмі ўжо яны далікатныя.

**Арцём ХАНІН.**


# ЛАТАРЭЯ!

*220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты* **ЗВЯЗДА**

**Да ўвагі работнікаў пошты!**
**Дастаўка спецыяльнай паштоўкі «Звязды» аплачана па дамоўленасці з РА «Белпошта».**




**Генеральны дырэктар РА «Белпошта»**
**Г. Я. ІГНАТОВІЧ**

**Увага: латарэя «Звязды» і рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта»!**

## *Мы даём Вам галоўнае – інфармацыю!*

ЗВЯЗДА ДА
ЗВЯЗДА

**Нагадваем вам, што працягваецца падпіска на другі квартал 1998 года.**

*Падпісная цана «Звязды»*
***на месяц* — 24.000 руб. *для індывідуальных падпісчыкаў,* 40.000 руб. *для ведамасных падпісчыкаў;***
***на 3 месяцы* — *72 і 120 тысяч адпаведна.***

**Памятайце: «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

***НАПАМІНАЕМ:*** *удзельнікам латарэі становіцца кожны, хто аформіў падпіску на «Звязду» на I паўгоддзе ці на II квартал 1998 года і даслаў у рэдакцыю картку ўдзельніка розыгрышу латарэі (ПРОСЬБА: запаўняйце разборліва). Для гэтага выражце спецыяльную паштоўку «Звязды» (па пункцірнай лініі) і адпраўце яе на адрас рэдакцыі газеты (ПРОСЬБА абанементны лісток аб падпісцы на «Звязду» і аплаце за яе высылаць у рэдакцыю не трэба — калі вы выйграеце прыз, тады перад яго ўручэннем мы папросім вас прадставіць абанемент на падпіску).*

***НЕПРЫЕМНА ПРА ГЭТА ГАВАРЫЦЬ, АЛЕ ТРЭБА.*** *Просім у першую чаргу тых, хто дасылае некалькі картак удзельнікаў розыгрышу: не рабіце гэтага — падобныя факты выяўляюцца, і пакідаецца толькі адна картка. Яе публікацыя некалькі разоў на старонках газеты даецца для таго, каб вы, паважаныя чытачы, расказалі пра «Звязду» сваім родзічам, знаёмым і, калі яны вырашылі падпісацца на яе, перадалі ім картку для запаўнення і адпраўкі ў рэдакцыю.*

***КАРТКІ ПРЫМАЮЦЦА*** *да 20 сакавіка (уключна). Розыгрыш будзе праводзіцца з удзелам, як і заўсёды, падпісчыкаў газеты «Звязда».*

*Імёны ўладальнікаў будуць апублікаваны на старонках газеты. Прызы можна будзе атрымаць у рэдакцыі.*

***ВЫПІСВАЙЦЕ! ЧЫТАЙЦЕ! УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ! ВЫЙГРАВАЙЦЕ!***
***Тэл./факс (0172) 268-27-79.***


## *Віншаванні*

***Сардэчна віншуюць з днём нараджэння і жадаюць здароўя, шчасця, радасці, удачы і дабрабыту, кахання і поспехаў у жыцці:*** **Аляксандру Іосіфавічу РУТКОЎСКАМУ** з п. Сасновы Бор — супрацоўнікі санаторыя «Сасновы Бор»; **Тамары Сцяпанаўне БАБЕНІ** з г. Салігорска — маці і дачка; **Алене Сяргееўне МАМОНЬКА** з г. Нясвіжа — сяброўка Марыя са Стоўбцаў; **Іраідзе Ціханаўне БУРАК** — дачка, сыны і муж, в. В. Тупалы; **Андрэю ДРАПЕЗУ** з Мінска — бацькі, брат Барыс; **Мікалаю Пятровічу ГАРАЎЦОВУ** з г. Жлобіна — жонка, дочкі, зяці і ўнукі; **Марыі Міхайлаўне СІДРУК** з в. Сялец Смаргонскага раёна — муж, дзеці, унукі; **Ганне Раманаўне УРБАНОВІЧ** з г. Смаргоні з нагоды юбілею — сям'я Ушыўцоў; **Івану Андрэевічу СУХАЦКАМУ** з Гродна з нагоды 65-годдзя — з павагай Алесь, п. Бераставіца; **Міхаілу Лявонцевічу СКАПЦУ** з п. Акцябрскі — жонка і дачка.

*Сардэчна віншуем* ***Людмілу Іванаўну і Барыса Рыгоравіча ПАЦЕЕВЫХ*** *з в. Браўкі Мінскага раёна з сярэбраным вяселлем! Жадаем і надалей кахання, узаемаразумення і гасціннасці!*

**Усе сваякі.**

**На працягу ўсёй сваёй эвалюцыі чалавек пакрысе вучыўся разумець і нават у большай ці меншай ступені ўплываць на розныя з'явы прыроды. Прыкладаў таму тут можна прывесці процьму: ад заклінанняў, напрыклад, дажджу старажытнымі людзьмі, да, у больш шырокім сэнсе, шырокамаштабнай меліярацыі і змянення рэчышчаў рэк ужо нашымі сучаснікамі. Але, нягледзячы на тэхнічны прагрэс і ўзровень ведаў, чалавек, як калісьці і яго далёкія продкі, нават сёння не можа з упэўненасцю сказаць, што яму цалкам падуладная прыродная стыхія. Як і тысячагоддзі таму, напрыканцы ўжо стагоддзя дваццатага, нас палохае, непакоіць, заварожвае і цікавіць мноства прыродных з'яў. Аб многіх з іх сабрана шмат інфармацыі, мы разумеем прыроду іх з'яўлення, можам нават спрагназіраваць іх і дакладна вылічыць месца і час з'яўлення, але — не можам прадухіліць ці хаця б зменшыць іх сілу. Аб апошняй, дарэчы, летась давялося меркаваць і беларусам — падчас чэрвеньскага ўрагану пацярпелі сотні населеных пунктаў, стыхіяй быў нанесены велізарны матэрыяльны ўрон, былі ахвяры... Ужо напачатку гэтага года ўраганы жудаснай сілы абрынуліся, напрыклад, на Іспанію, Францыю, Вялікабрытанію... Дык што ж сабой уяўляюць гэтыя «нядобрыя» пасланцы прыроды, адкуль узнікаюць і чаму?**

# ЖАХЛІВЫЯ «ДЗЕЦІ» ЦЫКЛОНАЎ

## У «СЯМ'І» АДЗІН ДРУГОГА ЛЕПШЫ...

Падчас леташняга ўрагану, дакладней ужо пасля яго, давялося пабываць у пацярпелых ад удару стыхіі Валожынскім і Стаўбцоўскім раёнах. Разбураныя дамы, зламаныя-знявечаныя дрэвы, паваленыя слупы, людзі, якія толькі-толькі ачунялі ад шоку... Зразумела, тады ім было не да дакладных вызначэнняў, але, заўважыў, пэўны час блыталіся і калегі: ураган быў ці бура? Таму пачнём з назваў і вызначэнняў разбуральных вятроў, балазе, іх цэлая «сям'я».

Найперш пачнём з **трапічных цыклонаў.** Яны створаны з мірыядаў асобных штормаў; гэтыя вялізарныя, з немалой скорасцю кручэння спіральныя сістэмы ўзнікаюць над цёплымі акіянічнымі водамі. Пры максімальнай інтэнсіўнасці іх называюць ураганамі, тайфунамі ці цыклонамі — у залежнасці ад рэгіёна, дзе яны лютуюць. Цыклонам у метэаралогіі называюць таксама проста вобласць паніжанага ціску, якая можа паводзіць сябе даволі спакойна.

Вакол «вока» **ўрагану** — бязветранага і бязвоблачнага «цыліндра», які можа мець дзесяткі кіламетраў у папярочніку, — вятры дзьмуць са скорасцю, якая можа дасягаць нават 320 кіламетраў у гадзіну.

**Тайфуны** — гэта трапічныя цыклоны, ад якіх церпяць паўночна-заходнія берагі Ціхага акіяна. Яны могуць узнікаць практычна ў любую пару года, але найбольш часта— з ліпеня па кастрычнік. Бывае, што лічба іх ахвяр перавышае 100 тысяч чалавек. У некаторых рэгіёнах — у Індыі ці Аўстраліі — іх называюць цыклонамі.

**Тарнада** — іх выклікаюць магутныя навальнічныя штормы. Яны больш «кампактныя», чым ураганы — у «воку» апошняга могуць змясціцца сотні гэтых паветраных мас, якія ўвесь час круцяцца. «Сваякі» ўраганаў — тарнада «сілкуюцца» падобным жа чынам: за кошт пастаяннага прытоку цёплага вільготнага паветра.

**Смерчы** — яны меншыя і слабейшыя за тарнада, фарміруюцца пры воблачных сістэмах, якія не ствараюць штормаў.

Вадзяныя смерчы ўтвараюцца над адкрытымі воднымі прасторамі. Здараецца, яны дасягаюць берагоў, ламаюць судны, прыбярэжныя пабудовы.

**Пылавыя буры** ўзнікаюць у пустыні, калі нагрэтае паветра, якое ўзнімаецца ад зямлі, трапляе на які-небудзь ізаляваны паветраны віхар. Пылавыя буры, як правіла, узнікаюць у пустынных мясцінах, таму не лічацца асабліва небяспечнымі, хаця скорасць ветру пры іх можа перавышаць 100 кіламетраў у гадзіну.

## ЧАСТЫЯ «ГОСЦІ» НА БЕЛАРУСІ

— Сярод назіраемых на тэрыторыі нашай краіны небяспечных і асабліва небяспечных з'яў найбольш цяжкія наступствы звязаны з дзейнасцю працяглых і моцных вятроў — бураў (скорасць ветру больш за 20 кіламетраў у секунду, або 3—10 балаў па шкале Бафорта) і ўраганаў (больш за 33 метры ў секунду, або 12 балаў), якія ахопліваюць вялікія прасторы, — расказвае навуковец-гідролаг, кандыдат геаграфічных навук Аляксандр Макарэвіч. — Гэтыя з'явы звычайна адбываюцца пры праходжанні цыклонаў у зонах вялікіх перападаў атмасфернага ціску. На адкрытых месцах вятры са скорасцю 20—22 метры ў секунду здараюцца адзін раз у 5 гадоў, з хуткасцю 23—25 метраў у секунду — у 10 гадоў, 26—28 метраў у секунду — у 20 гадоў. Зарэгістраваны і парывы ветру з хуткасцю да 40 метраў у секунду.

Разбуральныя буры і ўраганы на тэрыторыі сучаснай Беларусі адзначаны летапісцамі ў 979, 1143, 1282, 1301, 1502, 1592 гадах. Вось як апісаў астрожскі летапісец ураган, які ішоў у 1614 годзе з захаду міма Заслаўя і Барысава. «Было каля поўдня, але як ноч. Жніво, пушчы крышыла. Ураганам палажыла сады ў Барысаве і іншых сёлах, разнесла шмат копаў сена, людзей, якія працавалі ў полі, насіла паверх дрэў. Іншых мёртвымі знаходзілі. Тыя людзі, якія ўхапіліся за дрэвы і моцна трымаліся, засталіся жывыя. А іншыя на полі за ржышча моцна ўзяліся і трымаліся, не пусцілі ветру пад сябе, а якія пусцілі ветру пад сябе і не ўтрымаліся, тых панесла невядома куды. У сёлах усё пакрышыла».

За два апошнія стагоддзі найбольш моцныя буры і ўраганы, якія ахапілі ўсю Беларусь, здарыліся 6 чэрвеня 1849 года, 17—18 студзеня 1955 года, 22—23 кастрычніка 1971 года. А зусім нядаўна, 23 чэрвеня 1997 года, з 18 да 21 гадзіны ўздзеянню ўрагану падвергліся тэрыторыі Брэсцкай і Мінскай абласцей. Ён узнік у выніку актыўнага перасоўвання атмасфернага фронту пры вельмі вільготным паветры. Назіраўся перапад тэмператур ад 16 да 31 градуса цяпла. У зоне стыхійнага бедства ўтварыліся кучавыя воблакі вышынёй да 15—17 кіламетраў, што здараецца над Беларуссю вельмі рэдка. Суправаджалася гэтая з'ява навальніцамі з дажджом і градам, а таксама моцным шквалістым ветрам, скорасць якога ў асобных месцах перавышала 30 метраў у секунду.

Ад урагану пацярпелі больш як 650 населеных пунктаў у 7 раёнах Брэсцкай вобласці (Ганцавіцкім, Пінскім, Лунінецкім, Драгічынскім, Івацэвіцкім, Іванаўскім, Ляхавіцкім) і 9 раёнаў Мінскай вобласці (Мінскім, Стаўбцоўскім, Капыльскім, Нясвіжскім, Уздзенскім, Клецкім, Валожынскім, Маладзечанскім, Смалявіцкім), а таксама гарады Барысаў і Жодзіна. У выніку ўрагану загінула 5 чалавек і было траўміравана каля 50. Усяго ў раёнах, якія пацярпелі, было пашкоджана сельскагаспадарчых пасеваў на плошчы звыш 150 тысяч гектараў. Стыхія нанесла вялікую шкоду лясному фонду. Было разбурана больш за 800 жылых дамоў, а пашкоджана — амаль дзесяць тысяч. Ураган вывеў са строю каля 350 кіламетраў ЛЭП; прымусіў спыніць чыгуначны рух на 3-4 гадзіны на маладзечанскім, барысаўскім і асіповіцкім накірунках. У раёнах бедства было ўведзена надзвычайнае становішча...

## СМЕРЧ — ШТО ЎЯЎЛЯЕЦЦА ПРЫ ГЭТЫМ СЛОВЕ?..

Як, пазнаёмімся з асобнымі «дзеткамі» цыклона? Барані Божа ад іх частых наведванняў. Аднак гэта не адзіныя «прадстаўнікі» стыхіі, якіх можна «сустрэць» у Беларусі...

— Немалую шкоду наносіць і такая экстрэмальная з'ява (якая таксама звязана з цыклонамі), як смерч — моцны віхар з вертыкальнай воссю кручэння, — гаворыць Аляксандр Макарэвіч. — Узнікненне смерчаў звязана з асабліва моцнай няўстойлівасцю атмасферы на мяжы цёплага і халоднага паветра. Яны ўтвараюцца з навальнічнай хмары звычайна ў цёплым сектары цыклона і апускаюцца ў выглядзе цёмнага слупа да зямной ці воднай паверхні. У верхняй частцы смерчы злучаюцца з хмарамі, у ніжняй, каля паверхні зямлі, маюць лейкападобныя пашырэнні, утвараючы вузкую частку слупа ў сярэдзіне.

— У Заходняй Еўропе аналагічныя віхры на сушы называюць тромбамі, а ў ЗША, дзе яны вызначаюцца асабліва вялікай сілай і часта паўтараюцца, — тарнада. За год на Зямлі ўзнікае прыкладна тысяча—паўтары смерчаў, з іх палова — на тэрыторыі ЗША. Там нават вылучана паласа смерчаў, якая атрымала назву «алея тарнада», — працягвае Аляксандр Аляксандравіч.

Самым разбуральным з усіх вядомых у свеце віхраў быў звышспусташальны смерч у ЗША 18 сакавіка 1825 года. Ён прайшоў 352 кіламетры. Загінула 689 і было паранена 1980 чалавек. На тэрыторыі нашай краіны самы моцны спусташальны смерч за апошнія гады прайшоўся праз горад Іванава 9 чэрвеня 1984 года. Яго шлях — 160 кіламетраў, ён пакінуў пасля сябе паласу разбурэнняў шырынёй ад трохсот да васьмісот метраў — вырваныя з каранямі дрэвы, паваленыя апоры электраліній...

На тэрыторыі Беларусі смерч — не такая ўжо рэдкая з'ява. Сярод краін былога СССР яна знаходзіцца на адным з першых месцаў па верагоднасці гэтай метэаралагічнай з'явы на адзінку плошчы. Кандыдату геаграфічных навук Аляксандру Макарэвічу разам з іншым даследчыкам — доктарам геаграфічных навук Арсенам Булаўкам удалося сабраць звесткі аб 50 смерчах, якія адбыліся за апошнія 140 гадоў (з 1849 па 1989 г г.) у межах сучаснай тэрыторыі краіны (на самай справе іх было значна больш). Праведзеныя даследаванні даюць падставы меркаваць аб тым, што кожны год на тэрыторыі Беларусі бывае ад 1-2 да 5 смерчаў. Найчасцей яны ўтвараюцца летам, радзей — вясной і восенню. На май прыпадае пятая іх частка, на чэрвень — 24 працэнты, ліпень — 34, жнівень — 14, верасень — 8 працэнтаў ад усіх выпадкаў узнікнення смерчаў. Назіраюцца ж яны ў любы час сутак, але найчасцей — з 12 да 18 гадзін.

Інтэнсіўнасць смерчаў вызначаецца па шасцібальнай шкале і залежыць ад скорасці ветру і характару разбурэнняў. З вядомых смерчаў на тэрыторыі Беларусі, інтэнсіўнасць якіх удалося вызначыць, 26 працэнтаў адносяцца да слабых (0 балаў), 44 — да ўмераных (1 бал), 26 — да значных (2 балы) і толькі 4 працэнты — да моцных (3 балы). Спусташальных і звышспусташальных смерчаў на тэрыторыі краіны, на шчасце, пакуль не зафіксавана.

Смерчы суправаджаюцца навальніцай, дажджом, градам. У Беларусі яны маюць у дыяметры ад дзесяці—пятнаццаці да некалькіх соцень метраў і вышыню слупа ад ста і таксама да некалькіх соцень метраў. Паветра ў іх круціцца са скорасцю ад 20 да 100 метраў у секунду, звычайна па гадзіннікавай стрэлцы, узнімаючыся адначасова ўгору. Скорасць паступальнага руху смерчавага слупа — ад 10 да 30 метраў у секунду, траекторыя яго ўяўляе прамую лінію або злёгку выгнутую дугу і супадае з напрамкам руху. Пад уздзеяннем вялікай скорасці кручэння ў сярэдзіне віхру ўтвараецца вельмі нізкі ціск, і ўсё, што трапляецца на шляху, нібы ўсмоктваецца, высока падымаецца і пераносіцца на значныя адлегласці. У Белавежскай пушчы, Бярэзінскім запаведніку, на Палессі нярэдка сустракаюцца смерчавыя прасекі. Пад'ёмы вады ў выглядзе слупоў назіраліся на буйных азёрах Беларусі — Нарачы, Снуды, Струсты, Чырвоным і іншых.

— За час свайго існавання — ад некалькіх хвілін да некалькіх гадзін — смерч праходзіць у сярэднім 15 кіламетраў, — працягвае аповяд Аляксандр Макарэвіч, — сярэдняя шырыня шляху — 150 метраў. Рухаецца пераважна з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Дарэчы, зусім не зафіксавана руху смерчаў з усходу на захад і з поўначы на поўдзень.

З рускіх летапісаў вядома, што самыя разбуральныя смерчы на тэрыторыі сучаснай краіны былі ў 979 і 1282 гадах. У мінулым стагоддзі найбольш моцныя смерчы прайшліся над Віцебскай губерняй у 1836 і 1849 гадах. У наша стагоддзе разбуральны смерч (сілай у 3 балы) прайшоў па тэрыторыі Асіповіцкага раёна 12 чэрвеня 1927 года.

Прырода смерчаў вывучана яшчэ недастаткова. У любым выпадку — пры сустрэчы з ім лепш схавацца ў склепе або падвале. На адкрытай мясцовасці трэба вызначыць накірунак руху смерчу і ўцякаць упоперак яго руху або легчы ў якое-небудзь паглыбленне ў зямлі, напрыклад, у канаву. Зразумела, лепш не заставацца побач з высокімі дрэвамі, слупамі, у аўтамашынах.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



НА ЗДЫМКАХ: вось якія сляды ў Беларусі пакінуў пасля сябе леташні ўраган.

**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.32 | 17.16 | 9.44 |
| Віцебск – | 7.25 | 17.02 | 9.37 |
| Магілёў – | 7.21 | 17.05 | 9.44 |
| Гомель – | 7.15 | 17.06 | 9.51 |
| Гродна – | 7.47 | 17.32 | 9.45 |
| Брэст – | 7.43 | 17.36 | 9.53 |

**МЕСЯЦ**

**Поўня 11 лютага**
**З 21.58 — 18-ыя месяцавыя суткі**
**З 17.18 месяц у сузор'і Шаляў**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Трыфана, Пятра К. Кірыла, Мятода, Валянціна**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у заходніх раёнах снег, мокры снег, на дарогах месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Гродне — 0—2 градусы цяпла, Брэсце — каля нуля, Мінску — 2—4, Віцебску, Магілёве і Гомелі — 6—8 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: уначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — у асобных раёнах невялікія ападкі. Тэмпература 15-га ўначы — 2—7, па паўночнаму ўсходу — 8—13, удзень — мінус 3 — плюс 2; 16-га ўначы — мінус 3 — плюс 2, удзень — 0—5 градусаў цяпла.

**БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР**

**14 лютага**

85 гадоў з дня нараджэння (1913-1993) В. К. Цвіркі, жывапісца, педагога, народнага мастака Беларусі.

60 гадоў з дня нараджэння (1938) Ф. Д. Пыталёва, кампазітара, педагога.

СТРЭЧАНЬСКІЯ ДЗЯДЫ, ГРАМНІЧНЫ БАЦЬКА.

Дзень ушанавання продкаў. У гэты дзень выраблялі вялікія грамнічныя свечкі.


## ВРАЧ И БОЛЬНОЙ ПОБЕЖДАЮТ БОЛЕЗНЬ ВМЕСТЕ

— Отдаю вам свои знания, свою душу, свою волю, и если вы ответите мне тем же, мы победим вашу болезнь...

Эту хрупкую женщину на сцене трудно было узнать. К ней были прикованы десятки глаз с верой и надеждой на исцеление. Пациенты внимали каждому ее слову. Это была уже не знакомая мне, на редкость мягкая и обаятельная собеседница, интересный человек — это был сгусток воли, энергии, мудрости, разума.

Ирина Дмитриевна Старцева проводила очередной сеанс лечения больных, страдающих от избыточного веса.

Мне удалось побеседовать с бывшей пациенткой Ирины Дмитриевны Старцевой. Год назад Оксана при росте 160 см весила 110 кг. Сейчас это — стройная молодая женщина.

— Оксана, трудно ли было придерживаться системы питания, предлагаемой в цетре?

— Нет, совершенно не трудно. Надо только к ней немного привыкнуть. Я думаю, самому человеку, без дополнительного энергетического волевого заряда, было бы чрезвычайно сложно осилить систему питания, резко отличающуюся от обычной. Пациентам рекомендуется есть чаще и малыми порциями по определенному режиму, исключая сладкое, жирное, мучное, а также спиртное.

За год организм перестраивается, жировой обмен веществ приходит в норму, желудок сокращается. Через год человек может самостоятельно регулировать работу своего организма.

Только для этого надо очень захотеть стать красивым и здоровым.

Именно здоровым, так как избыточный вес — причина и показатель неблагополучия в организме. У очень полных людей страдают все внутренние органы. Нарушается нормальная работа сердца, так как оно «сковывается» жировой оболочкой.

В сосудах образуются жировые бляшки и чем их больш, тем хуже циркулирует в них кровь. В результате развивается гипертония.

Жировые перерождения происходят и в пищеварительном тракте.

Но больше всего страдает эндокринная систэма, выполняющая репродуктивную функцию.

Что же делать людям, у которых нарушен жировой обмен? Голодать? Но после голодания человек вновь быстро набирает вес. Лишь временный эффект дают и различные препараты для похудания.

Жителям Беларуси повезло: в Центре резервных возможностей человека известным доктором Светланой Львовной Донской был разработан и внедрен новый метод лечения избыточного веса, в основу которого легла система народного врача из Феодосии Александра Романовича Довженко, глубоко изучившего восточную философию и медицину и познавшего великое значения влияния одного человека на другого посредством мысли, слова, направленной энергии.



Свои знания и мудрость доктор Довженко передал ученикам, в том числе своим любимым ученицам Светлане Львовне Донской и ее дочери Ирине Дмитриевне Старцевой.

По глубокому убеждению Довженко, энергию мозга можно сравнить лишь с энергией Солнца. Преград для нее не существует. Нужны лишь проводники.

Этими проводниками становятся люди, обладающие могучим энергетическим полем. Такие, как ведущие психотерапевты Центра резервных возможностей человека С. Л. Донская и И. Д. Старцева, помогающие сотням, тысячам людей избавиться от своих недугов, обрести радость жизни.

До распада Советского Союза Светлане Львовне и Ирине Дмитриевне поручалось систематически проводить сеансы лечения в Москве в Международной лиге трезвости. Врач Донская при жизни Довженко помогала ему лечить больных, страдающих от алкоголизма, табакокурения, наркомании в Феодосии, где работал учитель.

* * *

Все больше и больше людей находят дорогу в центр.

Залогом успешного исцеления является искреннее желание вылечиться, вера в свои силы и в метод врача.

И соединение воли врача и воли пациента в достижении единой цели дают прекрасный эффект. И совсем несложной оказывается предложенная система питания, рассчитанная на низкокалорийную пищу, позволяющую нормально функционировать организму.

Кроме того, важно не только сколько ест человек, но и как он ест. По всем этим моментам проводится подробнейшая консультация, даются рецепты тибетской медицины, рецепты вечной молодости.

Избавить от лишнего веса, подарить вам молодость, здоровье, красоту всегда готовы в Центре резервных возможностей человека по адресу: г. Минск, ул. Кунцевщина, 8.

Центр работает ежедневно с 8.00 до 18.00, кроме выходных.

Получить информацию и записаться на прием можно по телефонам: 259-83-47, 259-87-81, 254-41-62.

Проезд троллейбусами №№ 31, 32, 33; автобусами №№ 29, 78, 101 до остановки «Поликлиника».

Центр располагается в помещении 26-й поликлиники г. Минска.

**Галина ИЛЬНИЦКАЯ.**
**«Р. О. Super плюс».**
**Лицензия МЦРВЧ № 342 от 23.03.93 г. Выдана Центральным исполкомом г. Минска.**



*Суботнім вечарам*

# К р ы ж а в а н к а

**Па гарызанталях:** 1. Нямецкі філосаф (XVIII ст.). 3. Самаразгрузная скрынка для падымання грузу. 9. Марская прамысловая рыба. 10. Прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі. 13. Перавязачны матэрыял. 14. Папулярны гатунак незагорнутых цукерак. 15. Чырвоная качка. 18. Рыбалоўная сетка. 19. Жаночае ўпрыгожванне. 20. Пакінутае неапрацаванае поле. 23. Стэнд з таварамі ў магазіне. 24. Афіцыйны дакумент аб заканчэнні навучальнай установы. 27. Персанаж твора Д. Дэфо пра Рабінзона Круза. 28. Чалавек, які мае ордэн. 31. Землясосная машына. 32. Блізкі ў сямейных адносінах чалавек. 33. Дэталь машыны, механізма. 38. Абарыген Сахаліна. 39. Інструмент хірурга. 40. Лесвіца на караблі. 43. Лясны кустоўнік. 44. Землярыйная машына. 45. Сімвал роднага дому, сям'і. 46. Асноўная дэталь электраматора.

**Па вертыкалях:** 1. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці «Цыганскі кароль». 2. Прастора над зямлёй. 4. Радавая абшчына. 5. Краіна ў Паўднёвай Амерыцы. 6. Частка царквы з прастолам. 7. Старая мера вагі ў аптэчнай справе. 8. Пшанічная булачка. 9. Архітэктар, па праекту якога рэканструявалася Красная плошча ў Маскве пасля пажару 1812 года. 11. Мяшкі, бочкі, скрынкі (абагул.). 12. Падраздзяленне ў легіёне (стар.). 16. Тып кузава легкавой машыны. 17. Тканіна для вырабу бялізны. 21. Малая планета. 22. Зборнік апавяданняў М. Лынькова. 25. Славуты герой Старажытнага Рыма. 26. Бурыльны малаток. 29. Папулярны беларускі эстрадны спявак. 30. Становішча, калі чалавеку або справе нічога не пагражае. 34. Адметная асаблівасць вярблюда. 35. Лінейка або табліца з дзяленнямі. 36. Садовая кветка. 37. Чарцёж фігуры на разгорнутай плоскасці. 41. Каталіцкае богаслужэнне. 42. Крапежна-будаўнічая дэталь.

**Склаў Мікалай КІСЛЯК.**

*г. Ваўкавыск.*

## Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка «Восем літар» (7 лютага).** 1. Канікулы. 2. Пілястра. 3. Апертура. 4. Сячкарня. 5. Альшоўка. 6. Амністыя. 7. Валторна. 8. Ангідрыд. 9. Трапецыя. 10. Страднае. 11. Марчанка. 12. Арлоўскі. 13. Карнавал. 14. Дудзінка. 15. Рыторыка. 16. Прыстань. 17. Тахометр. 18. Смаргонь. 19. Кальрабі. 20. Кісларод. 21. Дакучаеў. 22. Арапайма. 23. Антонава. 24. Калькута. 25. Антопаль. 26. Бальніца. 27. «Калевала». 28. Прымочка. 29. Тайманаў. 30. Фазатрон. 31. Турнікет. 32. Альтанка. 33. Фісташка. 34. Фармалін. 35. Ротэрдам. 36. Наманган. 37. Крытэрый. 38. Акваланг. 39. Шыманскі. 40. Гарнітур. 41. Алгарытм. 42. Каранцін. 43. Майданак. 44. «Рыгалета». 45. Анаконда. 46. Крамской. 47. Стаматыт. 48. Тынкоўка. 49. Лішайнік. 50. Кантракт. 51. Лангбард. 52. Скарпіён. 53. «Шарлатан». 54. Ткачэнка. 55. Катоўскі. 56. Анатомія. 57. Сакратар. 58. Бентаніт. 59. Скабіёза. 60. Каваціна. 61. Рэстаран. 62. Якушоўка. 63. Маргарын. 64. Сімулянт. 65. Макарона. 66. Прасніца. 67. Ванкевіч. 68. Карповіч. 69. Кудымкар. 70. Аляксееў. 71. Кругавых. 72. Коласава. 73. Апліката. 74. Перкусія. 75. Лібрацыя. 76. Макееўка. 77. Саксафон. 78. «Крыгалом». 79. Арканзас. 80. Сяргушка. 81. Смятанін. 82. Цеменіца. 83. Крохалеў. 84. «Маскарад». 85. Прапаліс. 86. «Каштанка». 87. Гліназём. 88. Арцішчаў. 89. Ангеліна. 90. Гардзіна. 91. Рэпартаж. 92. Памешчык. 93. Амёбацыт. 94. Балансір. 95. Швагерка. 96. Піраміда. 97. Кілаграм. 98. Саўрасаў.

# Крыптаграма

Спачатку разгадайце чатыры ключавыя словы. Потым, карыстаючыся імі, падстаўце ў клеткі малюнка літары, якія адпавядаюць аднолькавым лікам. І вы прачытаеце слушную прымаўку аб вучобе.

а) 1-2-3-4-5-6-7-8 — лінія ўяўнага судакранання неба з зямной або воднай паверхняй;

б) 9-10-11-12-13-2 — прастора паміж радамі дамоў у населеным пункце для праходу і праезду;

в) 14-15-16-3-17 — моцны віхор, які ўздымае ўгару слуп пяску, пылу, вады;

г) 18-2-19 — верхняя, ахоўная частка будынка, збудавання.

**Даслаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*




# Галаваломка

На малюнку — пятнаццаць трохклетачных адрэзкаў з літарамі. У кожным з іх — адна з літар лішняя. Выкрасліце лішнія літары і прачытайце народную прымаўку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*




АРАБСКІ ГАРАСКОП на наступны тыдзень

## Для Скарпіёнаў шчаслівая субота, а для Рыб — серада...

Фінансавыя справы ВАДАЛЕЯ пойдуць угору. Серада і чацвер спрыяльныя для рэалізацыі дзелавых праектаў. Вашы планы на выхадныя могуць змяніцца самым нечаканым чынам і гэта будзе звязана з пагоняй за грашовым прыбыткам.

Панядзелак і аўторак прынясуць РЫБАМ пачатак новых рамантычных адносінаў, якія могуць перарасці ў сур'ёзную і працяглую сувязь. Да таго ж серада — крайне спрыяльны дзень для дзелавых зносінаў, чаго не скажаш пра чацвер і пятніцу. Так што ўсе сустрэчы, звязаныя з клопатам аб уласным кашальку, лепш назначаць да серады ўключна.

АВЕНЫ змогуць прадэманстраваць усім сваю здольнасць атрымліваць максімум карысці ад зносінаў з уплывовымі людзьмі. Устрымайцеся ад неабдуманых учынкаў і паспешлівых рашэнняў, якія прыйдзецца прымаць у сярэдзіне тыдня. Шмат радасці прынясуць вам сябры і нават сваякі.

ЦЯЛЬЦУ наступны тыдзень абяцае глыбокія душэўныя хваляванні. На жаль, у нейкі момант вы можаце адчуць нават «безнадзейнасць». Збярыце волю ў кулак, як вы гэта ўмееце. Даволі хутка ўсё наладзіцца, а страты стануць набыткамі. Самымі ўдалымі на тыдні будуць для вас выхадныя дні.

БЛІЗНЯТЫ прадэманструюць ва ўсёй прыгажосці сваю унікальную здольнасць праяўляць гасціннасць у самых нязручных для гэтага ўмовах. Разам з тым вы ўвесь час будзеце аказвацца ў патрэбны час у патрэбным месцы, што абяцае вам незвычайны ўзлёт і ажыццяўленне даўняй мары.

Пачатак тыдня абяцае стаць надзвычай напружаным у РАКА. Ужо да чацвярга з'явіцца вялікае жаданне як след адпачыць, калі гэта ў вас ужо не стала надакучлівай ідэяй. У асабістым жыцці вам удасца вырашыць даўно хвалюючую праблему. І тады ў выхадныя дні вы можаце расслабіцца з чыстым сумленнем.

Фінансавыя праблемы абыдуць бокам на гэтым тыдні ЛЬВА. У сярэдзіне тыдня адкрыюцца перспектывы службовага росту. Чацвер прынясе прыемны сюрпрыз, магчыма, вам прапануюць працяглую камандзіроўку, аб якой вы так доўга марылі.

Панядзелак і аўторак абяцаюць ДЗЕВЕ сямейныя праблемы. У сераду прыйдзецца прымаць важнае рашэнне, якое адаб'ецца на далейшым дабрабыце не толькі вашым асабіста, але і ўсёй сям'і. Чацвер і пятніцу варта прысвяціць сваёй кар'еры, а вось у выхадныя дні ўдасца расслабіцца ў сям'і.

ШАЛЯМ трэба з разуменнем адносіцца да праблем і клопатаў вашага акружэння. Пастарайцеся пранікнуцца пачуццямі і хваляваннямі родных і блізкіх — больш спачування, і тады ў вашым доме назаўсёды паселяцца мір і спакой.

Фінансавае становішча СКАРПІЁНА стабілізуецца, калі ён устрымаецца ад непатрэбных расходаў. Тыдзень надзвычай спрыяльны для паездак, прычым лепш за ўсё адпраўляцца ў падарожжа ў пятніцу і ў вялікай кампаніі сяброў. Шчаслівы дзень — субота.

СТРАЛЕЦ можа сутыкнуцца з фінансавымі праблемамі, калі не будзе акуратным у сваіх тратах. Нечаканыя змяненні ў матэрыяльным становішчы прымусяць перагледзець многія планы на будучыню. Гандлёвыя пагадненні запатрабуюць ад вас самага пільнага іх вывучэння.

Панядзелак прынясе КАЗЯРОГАМ прыемны сюрпрыз. Зоркі прыхільныя да вас. Вас чакае паласа поспеху, і мала што зможа сапсаваць добры настрой. Не выключана, што фартуна падрыхтавала для вас новы любоўны раман, які пакіне прыкметны след у душы.

**Канстанцін МАЧУЛЬСКІ, кар. ІТАР-ТАСС.**

*г. Каір.*

*Анталогія беларускай песні*

# ОЙ, БЯДА

Песня нарадзілася нечакана. Пад пераборы гітары словы надзіва лёгка акрыліліся і, як птушыная стая, кружыліся ў апусцелым пакоі, ажыўлялі яго. «Ой, бяда, бяда, што рабіць, як жыць?» — гучаў спеў, і ўжо не гітара звінела, а спавядалася душа — выказвала надзеі, патаемную трывогу, якімі заўсёды поўняцца дзявочыя думы.

Надзея Мікуліч спявала новую песню. Спявала адна, крыху стомленая пасля канцэрта і ўзнёслая ад сустрэч з гледачамі. Верш Яўгена Бароўскага, які артыстка пастаянна вазіла з сабою разам з іншымі паэтычнымі творамі, цягнуўся да музыкі, і фразы адна за адной зляталі з яе вуснаў, выбудоўваліся ў задушэўную песню. Мабыць, канцэрт, зборы ў дарогу і вярэдлівыя вобразныя радкі «Нібы ў вір вада, маладосць бяжыць» аднachасова выклікалі ў спявачкі самотны настрой і адпаведную музыку, у якой лірычна паядналіся рамансавыя і фальклорныя інтанацыі.

Вось так тры гады таму перад ад'ездам са Жлобіна (падчас чакання цягніка на Мінск) Надзея Мікуліч стварыла песню «Ой, бяда». І пакуль узрушаныя яе выступленнем гараджане разыходзіліся па дамах і кватэраах, у адным з пакояў Палаца культуры металургаў узнік новы вакальны твор.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




**Верш Яўгена БАРОЎСКАГА**

Пакахала я хлапчыну
на сваю бяду.
Кожны вечар ад кручыны
месца не знайду.
Апетыт зусім згубіла
і згубіла сон.
І сказаць не маю сілы,
як мне любы ён.

**Музыка Надзеі МІКУЛІЧ**

***Прыпеў***: Ой, бяда, бяда.
Што рабіць, як жыць?
Нібы ў вір вада,
маладосць бяжыць.
Засыхаю я,
як травіначка.
Без цябе, мая
палавіначка.

Ён падыдзе, усміхнецца,
скажа нешта ў жарт.
Сэрца бедненькае б'ецца,
і кідае ў жар.
Так і цягне прытуліцца,
не дышу — жыву:
Гэта ж трэба так ўлюбіцца,
страціць галаву.
***Прыпеў.***

А учора ціхі вечар,
зорныя агні.
На сцяжынцы, каля рэчкі
стрэліся адны.
Кажа хлопец:
— Залацінка, ягадка мая.
Без цябе, мая дзяўчынка,
засыхаю я.
***Прыпеў.***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 829.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12